незалежная газета

№ 14 (708) 13 красавіка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# ТЭРОР

## Хто?

Такія падзеі звычайна здараюцца недзе далёка. І неяк цяжка сабе ўявіць, што такое можа адбыцца тут. Тым не менш, гэта факт. 11 красавіка ў мінскім метро адбыўся выбух, у якім загінула 12 чалавек, а больш за 200 паранена.

**Без панікі**

**Гэта адбылося за некалькі хвілін да шостай вечара на станцыі «Кастрычніцкая». Самая гадзіна пік. Людзі дабіраліся дадому з працы. На вузлавой станцыі сталічнага метрапалітэна заўсёды шматлюдна.**

**Інфармацыя пачала даходзіць абрыўкамі ад сведкаў гэтых падзей. Людзі выходзілі з-пад зямлі абсыпаныя тынкоўкай, у шокавым стане, з апёкамі і пашкоджанымі канечнасцямі. Дзяржаўныя крыніцы першую гадзіну маўчалі.**

**Тым часам на месца здарэння ўжо несліся дзясяткі машын хуткай дапамогі, выратавальнікаў. Тым не менш, ніякай панікі сярод людзей не назіралася. Наадварот, у нейкі момант нават сабралася многа разявак, якія не рэагавалі на заклікі спецназа разыходзіцца.**

**Спецназаўцы таксама былі разгубленыя. Не мелі загадаў, што рабіць, пакуль не пачулі ў рацыі пераканаўчае: «Зачышчайце плошчу». Проста як на апазіцыйных шэсцях. Адзін са спецназаўцаў, відаць, таксама пацярпеў падчас выбуху.**

**Журналістаў не дапускалі да ўваходу ў метро з боку ўніверсама «Цэнтральны» і кавярні «Печкі-лавачкі», менавіта там быў эпіцэнтр выбуху. Прымушалі нават выціраць здымкі з мабільнікаў у звычайных прахожых. Упершыню пабачыў, як забаранялі здымаць групе БТ пад пагрозай разбіць камеру.**

**А вось з боку Дома афіцэраў пэўны час журналісты маглі здымаць вольна. Людзей, што ляжалі на насілках, кроў на асфальце. Усе чакалі, што проста сюды з’явіцца міністр Куляшоў. Быў толькі старшыня гарвыканкама Мікалай Ладуцька, але ад каментароў ён адмаўляўся.**

**Працяг на старонцы 3.**

### Каментар рэдакцыі

## Мінчукі і гарадскія службы праявілі захапляльную арганізаванасць

Трагедыя выпрабавала беларускае грамадства.

Журналісты «Нашай Нівы» назіралі працу гарадскіх службаў зблізку. У надзвычайнай сітуацыі медыкі і пажарнікі дзейнічалі з выключнай аператыўнасцю і прафесіяналізмам.

Службы метрапалітэна не дапусцілі ўтварэння штурханіны. Міліцыя забяспечвала парадак без эксцэсаў.

І мінчукі, людзі на вуліцах праявілі сябе з найлепшага боку.

Яны дапамагалі дактарам аказваць першую дапамогу. Не было дурной панікі, не было пустых дзеянняў.

Людзі, якія выбіраліся са станцыі, нацярпеліся страху, былі ў шоку. Тым не менш, на вуліцах панавала дысцыпліна, адчувалася самаарганізацыя. Людзі праяўлялі салідарнасць, паводзілі сябе разумна.

Незалежныя СМІ вычарпальна забяспечвалі грамадства інфармацыяй — цяжкай інфармацыяй — без пагоні за сенсацыямі.

Дзіка, страшна, што ў Мінску ліецца кроў, што Мінск пры Лукашэнку стаў — з рэгулярнасцю — месцам крывавых здарэнняў. Але ў такія моманты выпрабаванняў адчуваем і гонар за свой народ.

А заказчыкі крывавага тэракта калісьці непазбежна адкажуць па законе.



SVABODA.ORG

## На запатрабаванне КДБ «Наша Ніва» выдаліла з сайта відэа з месца выбуху

Чатыры супрацоўнікі КДБ з'явіліся ў Рэдакцыі «Нашай Нівы» 12 красавіка.

Гэта было прыкладна ў 10.00. Спецслужбісты прыйшлі з двума міліцыянтамі і двума панятымі.

У Рэдакцыі ў гэты час працавалі 9 чалавек.

Адзін з кадэбістаў паведаміў, што ў КДБ «ёсць пытанні» да матэрыялаў, змешчаных на сайце «НН» у панядзелак, пасля трагедыі ў Мінску.

Кадэбісты прыйшлі найперш, каб у рамках крымінальнай справы, заведзенай па факце падзей у метро, выняць (г.зн. скапіяваць) фота- і відэаматэрыялы, якія тычацца падзей на «Кастрычніцкай».

Таксама на іх патрабаванне з сайта было выдаленае відэа, зробленае ля «Кастрычніцкай» апаратарамі «НН». Кадэбісты аргументавалі гэта шакуючым зместам.

Рэдакцыйныя камп'ютары не забралі.

З галоўнага рэдактара «НН» Андрэя Скурко ўзятая падпіска пра неразгалошванне зместу гутаркі.

Супрацоўнікі КДБ паводзілі сябе карэктна.

**Сяргей Гезгала**

### Сцісла

• **Сем'і ахвяраў атрымаюць кампенсацыі па $10 тыс.** Пра гэта заявіў мэр горада Мікалай Ладуцька. Пацярпелыя таксама атрымаюць кампенсацыі і дапамогу.

• **Мінгарвыканкам адкрыў дабрачынны рахунак для дапамогі пацярпелым.** Рахунак № 3642740104035 у аддзяленні 539 ААТ «Белінвестбанк», код 739.

• **Афіцыйная заява Клуба заўзятараў БАТЭ з прычыны тэракта ў метро:** у знак жалобы па ахвярах тэракта ў метро і салідарнасці з пацярпелымі Клуб заўзятараў ФК БАТЭ вырашыў адмовіцца ад перфомансу на матчы з мінскім «Дынама» 15 красавіка.

Светлая памяць загінулым!

• **За сакавік уклады насельніцтва ў банках зменшыліся на 1,2 трлн рублёў.** Пры гэтым уклады у нацыянальнай валюце знізіліся на 1,18 трыльёна Br, а ў замежнай — на 40,4 мільёна долараў ЗША ў эквіваленце.

• **«Белінвестбанк» прыпыніў выдачу крэдытаў на аўтамабілі.** Выключэнне складуць асаблівыя праграмы банка. Крэдытаванне таксама не ажыццяўляе БПС-Банк.

**СМ**

### Голас народа

## «Усе разумеюць, каму гэта выгадна»

— вось тыповы каментар да інфармацыі пра выбух 11 красавіка на беларускіх інтэрнэт-сайтах.

## Эканамічныя санкцыі ЕС супраць Беларусі блакуюцца Італіяй, Грэцыяй, Латвіяй

12 красавіка ў Люксембургу адбылося пасяджэнне Рады міністраў замежных спраў Еўрасаюза, на якім разглядалася і справа ўвядзення эканамічных санкцый супраць Мінска.

Адкрываючы пасяджэнне, кіраўніца дыпламатыі ЕС Кэтрын Эштан сказала: «Я перадала свае спачуванні сем'ям, якія страцілі сваіх любімых або маюць параненых у выніку таго, што адбылося ў Беларусі. Мы таксама працягваем сачыць за гэтай сітуацыяй».

Мая Кацыянчыч, прэсавая прадстаўніца Кэтрын Эштан, сказала, што ніякае канкрэтнае рашэнне па санкцыях сёння не будзе прынятае.

Пасля выбуху гаворка пра санкцыі глядзелася б недарэчна.

Паводле Кацыянчыч, беларускае пытанне абмяжуецца азнаямленнем прысутных з апошнімі палітычнымі падзеямі ў Беларусі.

Адзін з дыпламатаў расказаў для радыё «Свабода», што Чэхія, Польшча, Славаччына і Швецыя выступаюць за ўвядзенне кропкавых эканамічных санкцый супраць лукашэнкаўцаў. Але супраць санкцый выказваюцца Італія, Грэцыя і Латвія.

**Мікола Бугай**

### Ад рэдактара

Дарагія чытачы!

Спадзяёмся, што ніхто з вас і вашых блізкіх не пацярпеў. Дзякуем вам за інфармацыю, якую вы праз тэлефон і электронную пошту паведамлялі «Нашай Ніве» ў панядзелак і аўторак. Нагадваем кантакты Рэдакцыі: Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,8-029-707-73-29. E-mail: nn@nn.by

### Самае чытанае на nn.by
**за 6 — 12 красавіка**

1. Крывавы панядзелак. Выбух на «Кастрычніцкай»: фоты і відэа з месца здарэння
2. Жах у Мінску. Відэа «Нашай Нівы» з месца выбуху — жорсткае. Недапушчальны прагляд асобамі да 18 гадоў (выдалена ў аўторак на запатрабаванне КДБ)
3. Лукашэнка: «Крыць няма чым. Вінаваты толькі мы». І загадаў «паспяшацца» з адказам, «хто яны»
4. Спіс параненых. Абнаўляецца
5. На запатрабаванне КДБ «Наша Ніва» выдаліла з сайта відэа ўчорашніх падзей
6. Ахвяры выбуху ў мінскім метро. Асцярожна: шакуючыя фоты
7. Фотаробат меркаванага тэрарыста
8. Відэа: Лукашэнка наведвае месца выбуху са сваім спадкаемцам Колем
9. Рэканструкцыя выбуху ў метро
10. 90-я вярнуліся. Штурм абменніка ў Мінску — відэа

## Важная інфармацыя для тых, хто купляе «НН» у «Белсаюздруку»

«Белсаюздрук», якому належаць усе газетныя кіёскі Мінска, адмаўляецца браць у продаж больш чым 1800 экзэмпляраў «Нашай Нівы». Яны распрадаюцца цалкам. Афіцыйнае вяртанне складала ў студзені 2—3%. Гэта азначае, што ў рэальнасці купіць «Нашу Ніву» можна толькі ў сераду. Сапраўды, многія чытачы тэлефануюць, наракаюць, што газету купіць цяжка.

На нашы просьбы павысіць колькасць асобнікаў у продажы «Белсаюздрук» адказаў, што «не плануе павелічэнне тыражу». Выглядае, што абмежаванне тыражу мае палітычны характар. Газету раскупляюць пастаянныя чытачы, і яна менш трапляе на вочы новаму чытачу.

У сувязі з гэтым маем некалькі рэкамендацый:

**1.** Калі вы не здолелі купіць нумар у кіёсках «Белсаюздруку», пытайцеся газету ў найбліжэйшым аддзяленні «Белпошты» і ў прыватных распаўсюднікаў. На поштах «Нашу Ніву» таксама прадаюць.

**2.** Вельмі рэкамендуем падпісвацца. Так вы будзеце атрымліваць газету гарантавана. У той жа час і новыя чытачы будуць сутыкацца з газетай у кіёсках.

**3.** Просім кожнага з вас, хто не знаходзіць газеты ў сваім шапіку «Белсаюздруку», адразу кіраваць кароткі ліст наступнага зместу:

*ГРУП «Белсаюздрук»*
*220050 Мінск, вул.Валадарскага, 16*

*Я, (імя, імя па бацьку, прозвішча), які пражывае па адрасе ..., не знаходжу ў продажы газеты «Наша Ніва» ў кіёску №..., дзе я прывык яе купляць. Прашу павялічыць колькасць экзэмпляраў гэтай патрэбнай мне газеты, якія паступаюць у гэты кіёск.*

*З павагай,*

...

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Мікалаю С. з Ганцавіцкага раёна.
Івану П., Алесю Б. з Баранавіцкага раёна.
Людміле Я., Івану Д. з Мядзельскага раёна.
Сяргею К., Ю.С., Вадзіму Ш. з Брэста.
Іне С. з Барысаўскага раёна.
Івану А., Генадзю Г. з Іўеўскага раёна.
В.Л., Тадэўшу Ш., Анатолю Б. з Маладзечанскага раёна.
Валерыю Х. з Любанскага раёна
Мікалаю Х. з Шчучынскага раёна.
Аляксандру Б., В.Г., Генадзю К., Сцяпану Г., В.Г., А.А., Аляксандру Ж. з Мінскага раёна.
Сяргею В. з Полацкага раёна.
Наталлі Б. з Гродна.
Валянціне Г. з Бешанковіцкага раёна.
Іне С., Вользе Ж., Уладзіміру Д. з Барысаўскага раёна.
Станіславу П. з Бярозаўскага раёна.

# Хто? Тэрор супраць уласнага народа Або замежная дыверсія? Або псіх?

Працяг са старонкі 1.

## «Нам кінуты выклік»

Чым бліжэй было да восьмай гадзіны, тым больш рух адбываўся ля ўваходу ў метро. Спачатку туды зайшлі супрацоўнікі групы «Альфа». Потым нехта панёс унутры кветкі. «Значыць, зараз прыедзе Лукашэнка». Сапраўды, хвілін праз пятнаццаць на месца трагедыі прыбыла ягоная машына. Лукашэнка быў з малодшым сынам. Разам з кіраўніком дзяржавы на станцыю пусцілі толькі некалькіх журналістаў.

Перад гэтым Лукашэнка правёў з сілавікамі экстраную нараду. Лукашэнка не быў нервовым, не крычаў на падначаленых, як у 2008 годзе. Ягоны тон быў спакойны, нават безэмацыйны. «Мужыкі, нам кінуты сур'ёзны выклік, патрэбны адэкватны адказ і ён павінен быць знойдзены», — заявіў Лукашэнка.

«Я вас папярэджваў, што нам спакойнага жыцця не дадуць. Хто яны? І з адказам на гэтае пытанне прашу паспяшацца», — загадаў кіраўнік дзяржавы.

Адказ на гэтае пытанне некаторыя пачалі знаходзіць вельмі хутка. «Не ўсе разумелі гэта 19 снежня, не ўсе разумелі, калі з-за мяжы патрабавалі санкцыяў, не ўсе разумелі падчас арганізацыі валютнай і цукровай панікі, што нашай краіне абвясцілі вайну. Цяпер гэта стала зразумела. Нам абвясцілі вайну!» — вяшчаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

Лукашэнкаўскі сацыёлаг Сяргей Мусіенка: «Тэракт у Мінску — гэта вынік лібералізму дзяржавы да апазіцыі» **(старонка 7)**.

## Не раскрытыя

Зрэшты, тое і не дзіўна. Калі ўзгадаць пра падзеі ліпеня 2008-га, выбуху на Дзень Рэспублікі, то першымі пачалі шманаць менавіта палітычных праціўнікаў **(старонка 4)**. Вынік быў нулявы. Многія з іх трапілі ў СІЗА, але потым былі адпушчаныя. Абвінавачванні супраць апазіцыянераў не пацвердзіліся. А вобраз вінаватага тым часам склаўся.

Гэтым разам дэмакратычныя партыі адразу засцераглі ўлады ад выкарыстання трагедыі як магчымасці звесці палітычныя рахункі з апанентамі.

Дарэчы, выканаўцы выбуху ў 2008 годзе так і не былі знойдзеныя, хоць улады пад гэтай маркай правялі татальную дактыласкапію грамадзян Беларусі. Не знайшлі і арганізатараў ранейшых віцебскіх выбухаў. Пра гэта нагадаў былы падпалкоўнік КДБ Валер Костка. Напэўна, за гэта потым і атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад Генеральнай пракуратуры.

## Выбухоўка пад лавай

Па сваіх маштабах выбух 11 красавіка нельга параўноўваць з папярэднімі.

Паводле папярэдняй версіі міліцыі, выбухнула радыёкіраваная самаробная прылада. Яна была начыненая шарыкамі, арматурай і цвікамі. Магчыма, выбухоўка знаходзілася пад лавай на платформе. «Яна была накіраваная на максімальны паражаючы эфект», — зазначыў міністр Анатоль Куляшоў.

У выніку выбуху ўтварылася вялізная варонка (старонка 4). Адарваліся бляшаныя падвясныя столі. Шмат хто пацярпеў менавіта ад падзення іх зверху.

Параненых тым часам адвозілі ў мінскія шпіталі. На свае вочы назіраў, як людзі ў першыя гадзіны пасля выбуху прыходзілі ў медычныя ўстановы, каб здаць кроў для пацярпелых.

Рэпарцёры бачылі, з якім прафесіяналізмам і аператыўнасцю дзейнічалі на месцы здарэння медыкі і выратавальнікі **(старонка 2)**.

На наступны дзень мінчукі масава панеслі кветкі да ўваходаў у метро. Ніякай палітызацыі акцыі не было.



PHOTO.BYMEDIA.NET

## «Плеткароў» у СІЗА

Аўторак пачаўся з лёгкай панікі. У сацыяльных сетках з імклівасцю лавіны пачалі распаўсюджвацца чуткі пра выбухі мінскіх гарадскіх аўтобусаў. З'яўляліся дзясяткі людзей, якія чулі гэта «ад знаёмага знаёмага». На справе ж, нічога не пацвердзілася.

Тым не менш, пракуратура і КДБ папярэдзілі пра магчымыя санкцыі супраць людзей, што распускаюць чуткі. Нават прайшла інфармацыя пра затрыманне і змяшчэнне ў СІЗА трох найбольш актыўных «пляткароў» **(старонка 4)**. Немагчыма праверыць, ці праўда ці качка, каб неяк збіць градус напружанасці ў грамадстве, супакоіць сітуацыю.

## Версіі

Але асноўнае пытанне, якое працягвае ўсіх бударажыць: хто ж стаіць за гэтым страшным выбухам? КДБ вылучыла тры версіі.

Першая. Людзі, якія зацікаўленыя ў дэстабілізацыі сітуацыі ў краіне. «Камусьці не падабаецца той уклад, у якім жыве беларускае грамадства», — зазначыў старшыня КДБ Вадзім Зайцаў.

Другая. Маладыя экстрэмісты — пад гэтым вызначэннем маюцца на ўвазе прадстаўнікі руху анархістаў. Цяпер падыходзіць да канца крымінальная справа супраць шэрагу анархістаў. Яны абвінавачваюцца ў падпалах адміністрацыйных будынкаў. У тым ліку, у нападзе на бабруйскі КДБ, Міністэрства абароны, расійскае пасольства. Але і гэтую версію Зайцаў увязаў з апазіцыяй. Маўляў, многія радыкалы збіраліся ўдзельнічаць у падзеях на Плошчы.

Трэцяя. Учынак псіхічна нездаровага чалавека, версія адзіночкі. У гісторыі ЗША вядомы прыклад тэрарыста Тэадора Качынскага, ці Унабомбера. На працягу сямнаццаці гадоў гадоў Унабомбер дасылаў бомбы ва ўніверсітэты і на авіялініі. На вялікі жаль, падобныя Унабомберы працягваюць нараджацца і сёння.

## Неагучанае

Тым не менш, следства не выказала ўсіх версій, што з'яўляюцца ў інтэрнэце. «Камусьці вельмі выгадна, каб увага ад сацыяльна-эканамічных праблем пераключылася на нешта іншае», — адразу пасля выбуху сказаў экс-кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі Аляксандр Казулін **(старонка 7)**. Людзі адразу ж звярнулі ўвагу, што размоваў пра валютны і харчовы крызіс стала заўважна меней. Усе пераключыліся на абмеркаванне тэракта.

Палкоўнік Уладзімір Барадач мяркуе, што «вінаватага проста прызначаць». На ягоную думку, гэта дазволіць уладам «замацаваць свой палітычны імідж, адцягнуць увагу людзей ад эканамічных цяжкасцяў, замест высокага ўзроўню жыцця даць людзям жыццё».

Некаторыя адзначаюць, што ў Маскве таксама ўлюбёнае месца для тэрактаў — гэта метро. Праўда, зусім не верыцца, што тут маглі быць шахіды.

У Расіі выбухі напярэдадні буйных палітычных кампаній — гэта класіка жанру. Шматлікія даследчыкі выказвалі меркаванне, што да выбухаў 1999 года мела дачыненне ФСБ, каб прывесці да ўлады Уладзіміра Пуціна. Але ніхто гэтага так і не даказаў.

## Стабільная?

Гэта не першы выбух, не першыя ахвяры у «стабільнай» Беларусі. У Польшчы, Літве, Эстоніі нічога падобнага не было.

13 красавіка ў Мінску абвешчана днём жалобы. Нават не ў краіне, а толькі ў сталіцы. Улады чамусьці ўпарта адмаўляюцца рабіць агульнанацыянальныя дні жалобы. Так было летась падчас пажару ў Пінску, было і раней. За ўсімі гэтымі выпадкамі слёзы і пакуты нявінных людзей.

Застаецца толькі спадзявацца, што арганізатары гэтага агіднага дзеяння рана ці позна за ўсё адкажуць перад законам. Ці то яны нашы суайчыннікі, ці іх след вядзе ў іншую дзяржаву.

**Зміцер Панкавец**

# Дзяўчына знаходзілася пад заваламі, калі Лукашэнка ўскладаў кветкі

Марына Шубіч — студэнтка 5-га курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Яна павінна была выйсці на станцыі «Кастрычніцкая». Сяброўка, якая ехала разам з ёй у метро, выйшла на адну станцыю раней. Як даведалася пра выбух, адразу пабегла на «Кастрычніцкую». Там яна дзяжурыла да ночы, пакуль каля 23-й гадзіны не вынеслі Марыну. Яна была ў такім страшным стане, што сяброўка пазнала яе толькі па адзенні. Па словах знаёмай Марыны, дзяўчына толькі на 15 хвілін прыйшла ў прытомнасць.

Дзяўчына знаходзілася пад заваламі нават тады, як у 20.20 Аляксандр Лукашэнка з сынам Мікалаем спусціўся на станцыю.

Бацькі Марыны жывуць у Магілёве. Цяпер яны выехалі ў Мінск.

**КМ**


**Шубіч Марына Мікалаеўна**
нарадзілася ў 1988. Шпіталізавана ў 3-ю Гарадскую клінічную бальніцу.

# Лукашэнка: «Крыць няма чым. Вінаваты толькі мы»

**І загадаў «паспяшацца» з адказам, «хто яны».**

Гэта прагучала ў ягоным выступе на экстранай нарадзе, што транслявалася дзяржаўным тэлебачаннем.

«Без вас нам цяжка будзе знайсці гэтых уродаў. Нам трэба будзе ваша дапамога», — звярнуўся ён да грамадзянаў.

«Прааналізуйце, каму не падабалася стабільнасць», — запатрабаваў Лукашэнка ад сілавікоў. Ягоны голас не выдаваў эмоцый, у ягонай міміцы і жэстыкуляцыі не было нервознасці.

«Мужыкі, нам кінуты сур'ёзны выклік, патрэбны адэкватны адказ і ён павінен быць знойдзены», — заявіў Лукашэнка.

«Я вас папярэджваў, што нам спакойнага жыцця не дадуць. Хто яны? І з адказам на гэтае пытанне прашу паспяшацца», — падкрэсліў Лукашэнка.

Ён загадаў прыняць дапамогу Расіі ў расследаванні тэракта і ў аказанні дапамогі пацярпелым.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «ўзяў сітуацыю ў Мінску пад асабісты кантроль».

Што гэта будзе азначаць? Можна падумаць, што дагэтуль яна была не пад ягоным кантролем.

За аналагічным тэрактам 3 ліпеня 2008 года ішла хваля арыштаў іператрусаў, найперш у палітычных праціўнікаў Аляксандра Лукашэнкі.

БТ паказала, што Лукашэнка ўскладае кветкі на месца здарэння разам з маленькім сынам Колем. Лукашэнка ішоў паміж лужын крыві, яму паднялі стужачку, ён паклаў кветкі.

**Мікола Бугай**



# Міліцыя: радыёкіраваная бомба, а не смяротнік

У справе расследавання выбуху затрымалі некалькіх падазраваных і трох «панікёраў».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Патрэбна дакладнасць. Прэс-сакратар МУС Аляксандр Ластоўскі доўга раіўся па тэлефоне з кімсьці перад тым, як выйсці да журналістаў.**

Першымі на месца здарэння прыбылі ратавальнікі і медыкі. Міліцыя з'явілася пазней. Праз дваццаць хвілін пасля выбуху, каля 18.20, да Кастрычніцкай плошчы пачалі з'язджацца аўтазакі са спецназам.

Спецназаўцы ачапілі плошчу і выцяснілі адтуль мінакоў і журналістаў. Такой была першая рэакцыя праваахоўных органаў на тэракт.

Варта зазначыць, што сярод пацярпелых таксама былі супрацоўнікі міліцыі.

Афіцыйныя заявы кіраўніцтва праваахоўных органаў з'явіліся толькі пасля візіту Лукашэнкі на разбураную станцыю. Кіраўніком групы па расследаванні справы Лукашэнка прызначыў намесніка генеральнага пракурора Андрэя Шведа. І загадаў «паспяшацца» з адказам, «хто яны».

Версію таго, што гэта была выпадковая трагедыя, следства адкінула адразу. Па факце выбуху была распачатая справа на падставе часткі 3 артыкула 289 Крымінальнага кодэкса (тэрарызм).

Першыя падазраваныя з'явіліся нечакана хутка. Раніцай аўторка, калі ў Мінск ужо прыбылі два эксперты ФСБ, міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў паведаміў, што міліцыя правярае ўвесь транспарт на расійска-беларускай мяжы.

Праваахоўныя органы пачалі распаўсюджваць фотаробаты падазраваных ў здзяйсненні злачынства. Цікава, што першым фотаробат распаўсюдзіла не беларускае, а расійскае выданне «LifeNews». Беларускія выданні перадрукавалі яго адтуль. Чаму так сталася, пакуль няясна.

Як паведаміў Куляшоў, фотаробаты былі складзеныя на аснове сведчанняў відавочцаў. Яны, нібыта бачылі двух падазроных мужчын на станцыі незадоўга да выбуху.

У 12.00 12 красавіка намеснік генеральнага пракурора Андрэй Швед, кіраўнік аператыўнай групы па расследаванні выбуху, паведаміў аб затрыманні некалькіх чалавек, якіх падазраюць у датычнасці да выбуху. Іх імёны не былі раскрытыя. У Генпракуратуры таксама абверглі чуткі аб тым, што выбух здзейсніў тэрарыст-смяртнік. «Існуе вялікая верагоднасць таго, што выбуховая прылада была прыведзеная ў дзеянне дыстанцыйна», — заявілі ў Генпракуратуры.

Адначасова з паведамленнем аб затрыманні падазраваных прыйшлі навіны аб затрыманні трох распаўсюднікаў непраўдзівых звестак аб новых тэрактах у сталіцы. «Усе трое — жыхары Мінска — затрымания і змешчаныя ў следчы ізалятар за тое, што праз інтэрнэт-форумы і сацыяльныя сеткі распаўсюджвалі заведама ілжывыя звесткі пра быццам бы здзейсненыя ў беларускай сталіцы тэрарыстычныя акты: выбухі ў аўтобусах, аўта- і чыгуначным вакзалах», — паведаміла лукашэнкаўскім СМІ крыніца ў Радзе бяспекі.

Пакуль няясна, ці сапраўды пачаліся затрыманні з абвінавачваннем у духу 1930-х, ці гэта толькі качка, запушчаная, каб збіць хвалю чутак.

**Алесь Пілецкі**



**Каардынатар расследавання Швед** — той самы, што па Бябеніну і Міхалевічу.

Аляксандр Лукашэнка прызначыў каардынатарам расследавання крывавага выбуху не генеральнага пракурора Беларусі Васілевіча, а яго нага намесніка Андрэя Шведа.

Швед раней кіраваў расследаваннем таямнічай гібелі журналіста Алега Бябеніна. Ён жа вывучаў матэрыялы скаргі Алеся Міхалевіча на катаванні ў турме КДБ.

**Генпракуратуру чамусьці ўстрывожылі чуткі**

Генпракуратура папярэджвае грамадзян аб крымінальнай адказнасці за распаўсюд чутак аб новых фактах тэрарызму.

Як заявіў журналістам кіраўнік следчай групы па расследаванні тэракта Андрэй Швед, органы адсочваюць інфармацыю, а таксама каментарыі ў СМІ ў сувязі з трагедыяй.

12 красавіка ў Мінску распаўсюджваліся непраўдзівыя чуткі аб тым, што ў сталіцы быў узарваны аўтобус №100. Жыхары інфармавалі аб гэтым адзін аднаго, перагружаючы сотавыя сеткі.

## Швед супярэчыць Зайцаву: падазраваных няма

Ад пачатку выклікаў няяснасць факт, што фотаробат першым распаўсюдзіла расійскае, а не беларускае выданне. Маўчанне сілавых ведамстваў выдае, магчыма, недахоп каардынацыі.

Падазраваных па справе аб тэракце ў мінскім метро пакуль няма, працуэальна затрыманых -- таксама, паведаміў у эфіры АНТ у праграме «Адкрыты фармат» 12 красавіка намеснік генпракурора, кіраўнік аператыўнай следчай групы Андрэй Швед.

Між тым раней у панядзелак старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Вадзім Зайцаў заявіў, што ва ўчыненні тэракту ў Мінску падазраецца малады мужчына неславянскага выгляду ва ўзросце да 27 гадоў, моцнага целаскладу, ростам 175–180 см. На ім была карычневая куртка і карычневая вязаная шапачка.

Зайцаў праінфармаваў, што выбуховае прыстасаванне на «Кастрычніцкай» было радыёкіраванае. Паводле першаснай экспертнай ацэнкі, прылада была няпростая.

Адказваючы на пытанне журналістаў, ці магла гэтая прылада быць выраблена ў Беларусі, Вадзім Зайцаў сказаў, што на гэтае пытанне трэба адказаць экспертам.

Аднак у вечаровым эфіры АНТ намеснік міністра ўнутраных спраўаў Алег Пякарскі заявіў, што органы пакуль не могуць сказаць, што фотаробат, які з'явіўся ў СМІ, «адпавядае асобе, якая здзейсніла злачынства».

**Сяргей Гезгала; цыт. БелаПАН**

## Куляшоў: Правяраем увесь транспарт, асабліва на мяжы з Расіяй

Па словах міністра ўнутраных спраў, верагодна, што выбухоўка знаходзілася пад лавай на платформе насупраць другога вагона. У выніку выбуху ўтварылася варонка дыяметрам каля 80 см. Магутнасць выбуху ў Мінску ў траціловым эквіваленце склала ад 5 да 7 кг. Выбухоўка была нашпігавана металічнымі шарыкамі дыяметрам каля 1 см. На момант выбуху ў дадзеным месцы знаходзілася каля 300 чалавек.

Як паведаміў міністр, цяпер арганізавана праверка ўсяго транспарту, які ўязджае і выязджае з рэспублікі. Пад пільнай увагай — перыметры мяжы ў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях.

На ўзмоцнены варыянт нясення службы пераведзены праваахоўныя органы ў месцах масавага збору людзей, на чыгуначных вакзалах, у аэрапортах.

**СГ**



**Металашукальнікі ў метро**

Ад раніцы 12 красавіка на канцавых станцыях мінскага метро ўсталяваны турнікеты з металашукальнікамі. На іншых станцыях спецназаўцы правяраюць сумкі ва ўсіх, хто жадае скарыстацца метро.

Адміністрацыя прасіць мінчукоў і гасцей сталіцы не ездзіць у метро з вялікімі торбамі.

### КДБ абяцае ўзнагароду за інфармацыю пра тэракт

«Асобам, якія прадставяць фота- і відэаздымку, зробленую напярэдадні, у момант або пасля выбуху, альбо звесткі аб падрыхтоўцы ці ўчыненні злачынства, гарантуецца канфідэнцыйнасць і адэкватнае ўзнагароджанне», — паведамілі ў КДБ Беларусі.

У аўторак супрацоўнікі КДБ наведалі і Рэдакцыю «Нашай Нівы», каб скапіяваць наяўныя ў Рэдакцыі фота- і відэаматэрыялы з месца выбуху ў мінскім метро.

**СГ**

# Хроніка выбухаў за Лукашэнкам

Ніводзін з іх не быў раскрыты.

### 1997: Хваля выбухаў па краіне

1 кастрычніка 1997 у пад'ездзе ўласнага дома ў Магілёве ў выніку выбуху закладзенай у смеццеправод бомбы загінуў старшыня дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці Яўген Мікалуцкі. Афіцыйна было заяўлена пра тэракт. У тым жа годзе па Беларусі пракацілася цэлая хваля выбухаў: на газакампрэсарнай станцыі Крупкі Мінскай вобласці, газаправодзе Таржок—Мінск—Івацэвічы, у судах Савецкага раёна Мінска і Мінскага раёна Заслаўя, а таксама ў пад'ездзе жылога дома на сталічнай вуліцы Авакяна. Ніхто не пацярпеў, а адказнасць за выбухі на сябе бралі дзве неідэнтыфікаваныя арганізацыі — «Беларуская вызвольная армія» і «Новы парадак».

### Верасень 2005: Віцебск

14 і 22 верасня ў Віцебску прагрымелі выбухі. Ад металічнага начыння саматробных бомб у выніку першага пацярпелі два чалавекі, пасля другога — больш за 40. Некаторыя газеты атрымалі паведамленні, у якіх адказнасць за выбухі брала на сябе невядомая «Беларуская народна-вызваленчая армія». Некалькіх актывістаў апазіцыі мучылі ў якасці падазраваных у злачынствах, аднак вінаватыя дагэтуль не асуджаны.

### 4 ліпеня 2008: Мінск

Да цяперашняй трагедыі ў метро найбуйнейшы тэракт у гісторыі суверэннай Беларусі адбыўся ў ноч на 4 ліпеня 2008 г. Саматробная бомба, начыненая металічнымі дэталямі і схаваная ва ўпакоўку соку, спрацавала на скрыжаванні праспектаў Машэрава і Пераможцаў, дзе праходзіў святочны канцэрт у гонар Дня Незалежнасці. На прылеглай да сцэны тэрыторыі знаходзілася каля паўмільёна чалавек. Ніхто не загінуў, аднак за дапамогай да медыкаў звярнуліся 54 чалавекі, 47 з якіх былі шпіталізаваныя. У часе следства былі ўзятыя адбіткі пальцаў у больш як 1,3 млн жыхароў Беларусі. Больш за 100 чалавек прайшлі па справе ў якасці падазраваных.

Адразу пасля таго выбуху Лукашэнка правёў вялікуюператасоўку кадраў у сваім атачэнні.

**tut.by; СГ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Загінулі падчас выбуху ў мінскім метро

**1. Абражэй Наталля Валянцінаўна (1966 г.н.);**

**2. Шагойка Ганна Віктараўна (1954);**

**3. Капцюх Раман Васільевіч (1990);**

**4. Сербаеў Сяргей Уладзіміравіч (1988);**

**5. Наркевіч Анатоль Уладзіміравіч (1959);**

**6. Парфунцаў Аляксандр Яўгенавіч (1954);**

**7. Захаркава Таццяна Ігараўна (1968);**

**8. Клямец Юрый Аляксандравіч (1987);**

**9. Пікулік Галіна Іванаўна (1959);**

**10. Салаўёва Вольга Эдуардаўна (1983);**

**11. Бакан Віталь Сяргеевіч (1977);**

**12. Герасімчык Сяргей Анатольевіч (1993).**

## У метро загінулі муж і жонка

Наркевіч Анатоль і Галіна Пікулік. Яны ехалі дадому пасля працы.

Галіна Пікулік (1959 г.н.) працавала загадчыкам гаспадарчага сектара РВУ «Літаратура і Мастацтва».

З прозвішчам жанчыны ўзнікла блытаніна. Калі бацькі Анатоля Наркевіча (3.06.1959 г.н.) апазналі ў загінулай грамадзянскую жонку сына, жанчыну запісалі як Карыну Андруковіч, былую жонку Наркевіча.

На працы, у РВУ «ЛіМ», на століку стаіць партрэт жанчыны з жалобнай стужкай і свечкай. Супрацоўнікі ўстановы кажуць, што даведаліся аб смерці калегі менавіта падчас выбуху ў метро.

**Кастусь Матушыч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Загінуў сын алімпійца Васіля Капцюха

Падчас выбуху ў мінскім метро загінуў сын вядомага айчыннага дыскабола, прызёра Алімпіяды Васіля Капцюха — Раман. Хлопцу быў усяго толькі 21 год. Ён навучаўся ў мінскім гандлёвым каледжы.

На старонцы Рамана Капцюха на сайце Вконтакте сярод цытат напісана: «Смерці няма — ёсць вялікая сіла».

Рэдакцыя «НН» далучаецца да спачуванняў.

**ЗП**



## Спіс параненых

1. Акуліч Таццяна Сяргееўна 1985 года нараджэння
2. Александрыя Аляксандр Уладзіміравіч, 19. 04.1991
3. Анохін Павел Аляксандравіч 29.06.1959
4. Арыніч Ганна Іванаўна 04.02.1956
5. Арцюкевіч Яна Вячаславаўна 25.01.1992
6. Атрошкіна Таццяна Міхайлаўна 24.01.1957
7. Багаеў Сяргей Ігаравіч 25.02. 1979
8.. Барашкова Ілона Аляксееўна 16.05.1991
9. Барсук Алена Мікалаеўна 24.04.1974
10. Барцэвіч Наталля Мікалаеўна 14.11.1959
11. Бахматаў Андрэй Уладзіміравіч 05.11.1991
12. Бекіш Максім Віктаравіч 14.11.1986
13. Бенедыктовіч Алена Уладзіміраўна 02.08.1967
14. Бабок Вікторыя Віктараўна 29.12.1986
15. Багавая Валянціна Васільеўна 10.08.1955
16. Багавы Васіль Анатольевіч 28.04.1986
17. Бохан Віталь Сяргеевіч 21.09.1986
18. Баярка Юлія Мікалаеўна 16.01.1980
19. Буевіч Ірына Аляксандраўна 11.11.1960
20. Булдова Людміла Аляксандраўна 25.02.1966
21. Бахромін Аляксандр Мікалаевіч 16.01.1958
22. Вяргейчык Ігар Пятровіч 26.04.1969
23. Вітко Алена Аляксееўна 07.01.1992
24. Вайцяховіч Аляксей Сяргеевіч 25.10.1989
25. Волкаў Аляксандр Валеравіч 18.08.1976
26. Валасянкоў Канстанцін Уладзіміравіч 14.11.1987
27. Воўчак Леанід Станіслававіч 04.08.1977
28. Галкін Юрый Васільевіч 28.06.1945
29. Галяшэвіч Віктар Браніслававіч 31.03.1980
30. Галубец Святлана Андрэеўна 16.04.1990
31. Горная Людміла Уладзіміраўна 16.08.1965
32.Гаршкоў Андрэй Аляксеевіч 28.10.1965
33. Гарачун Уладзімір Аляксандравіч 18.11.1971
34.Гасцеева Аляксандра Аляксандраўна 14.08.1992
35.Грэцкі Зміцер Уладзіміравіч 23.12.1984
36. Гуліна Эльвіра Вячаславаўна 28.11.1961
37. Гулько Павел Пятровіч 31.07.1985
38. Гурбан Сняжана Канстанцінаўна 09.05.1988
39. Дайнека Віталь Віктаравіч 12.09.1970
40. Дзівіенка Арцём Віктаравіч 30.04.1994
41. Дзідзінёва Наталля Уладзіміраўна 17.06.1969
42. Даўжонак Наталля Міхайлаўна 11.06.1991
43. Дуброўская Вікторыя Леанідаўна 29.05.1961
44. Ярашэвіч Маргарыта Васільеўна 08.01.1994
45. Жаўткевіч Ала Ягораўна 12.07.1955
46. Ліўчык Лілія Сяргееўна 26.12.1990
47. Ільін Андрэй Уладзіміравіч 17.08.1974
48. Ільюшэнка Мікалай Аляксеевіч 14.06.1949
49. Калугіна Вераніка Анатольеўна 25.03.1991
50. Каменка Ірына Аляксандраўна 15.06.1988
51. Каморнікава Святлана Ігараўна 12.12.1967
52. Капелевіч Таццяна Сяргееўна 06.02.1954
53. Караханаў Раман Курбан Аглы 7.08.1989
54. Карпенка Яўген Міхайлавіч 09.08.1984
55. Карповіч Ірына Мітрафанаўна 04.01.1956
56. Картыжаў Аляксей Анатолевіч 05.10.1992
57. Кеда Яраслаў Пятровіч 31.08.1987
58. Кірыенка Яўген Уладзіміравіч 15.08.1985
59. Кірылін Арцём Алегавіч 16.11.1991
60. Кір'янаў Аляксандр Іванавіч
61. Козел Сяргей Мікалаевіч 20.12.1965
62. Козіч Валер Паўлавіч 06.10.1989
63. Крамарэнка Вольга Антонаўна 01.08.1958
64. Камароўская Людміла Віктараўна 01.09.1974
65. Кандраценка Алена Ігараўна 08.06.1986
66. Кондрусь Ягор Генадзьевіч 27.03.1988
67. Корбут Міхаіл Юр'евіч 28.11.1984
68. Касцевіч Ірына Мікалаеўна 06.11.1978
69. Касцевіч Мікіта Арцёмавіч 13.02.2001
70. Крутая Інэса Аляксандраўна 25.01.1979
71. Ксендзікава Ірына Сяргееўна 07.10.1988
72. Кузьміч Міхал Мікалаевіч 11.06.1991
73. Кулікова Ганна Валер'еўна 06.12.1983
74. Купцова Настасся Уладзіміраўна 25.05.1993
75. Курак Сяргей Вітальевіч
76. Лайкоўскі Віталь Валер'евіч 10.07.1980
77. Лапінская Ганна Яўгенаўна 06.01.1983
78. Лебядзінская Алена Аляксандраўна 01.02.1960
79. Ляцяга Кацярына Тадэвушаўна 08.12.1978
80. Ліпскі Уладзімір Уладзіміравіч 15.06.1946
81. Лісічонак Уладзімір Іванавіч 31.08.1954
82. Ламаносава Марыя Генадзьеўна 12.05.1957
83. Лукава Надзея Васільеўна 1961
84. Лукомская Аксана Алегаўна 14.04.1993
85. Лычаўка Яўген Эраставіч 29.01.1990
86. Люцка Андрэй Іванавіч 09.02.1991
87. Макейчык Анатоль Іванавіч 09.04.1954
88. Максімава Кацярына Аляксееўна 27.04.1954
89. Малініна Марыя Мікалаеўна 14.02.1988
90. Манейчык Аляксандр Мікалаевіч
91. Наруціс Ульяна Ігараўна 10.08.1983
92. Масліхін Антон Міхайлавіч 19.12.1991
93. Матыліцкі Іван Уладзіміравіч 21.04.1987
94. Мекінка Ганна Іванаўна 26.02.1952
95. Мельнікава Людміла Мікалаеўна 1957
96. Мітлашкоў Валерый Андрэевіч 23.07.1992
97. Міронава Алена Мікалаеўна 01.09.1990
98. Мірончык Аляксей Андрэевіч 13.05.1989
99. Моўчан Эліна Сяргееўна 15.12.1982
100. Моклая Надзея Ревозарэўна 15.02.1954
101. Моніч Галіна Сцяпанаўна 28.05.1951
102. Мычко Ігар Аляксандравіч 16.11.1962
103. Натуркач Іна Васільеўна 20.03.1980
104. Асіповіч Святлана Міхалаўна 1956
105. Паўловіч Ганна Станіславаўна 1992
106. Паўлоўская-Ванслав Алена Язэпаўна 29.08.1972
107. Паўлючык Наталля Вітальеўна 04.08.1972
108. Пархоменка Павел Дзмітрыевіч 11.06.1996
109. Пацяюк Аксана Уладзіміраўна 29.08.1986
110. Пацкевіч Ганна Фёдараўна 26.01.1977
111. Пярцоўская Вераніка Ігараўна 16.04.1991
112. Петуховіч Кацярына Ігараўна 01.12.1995
113. Пінкевіч Даніла Паўлавіч 1988
114. Платоненка Аксана Васільеўна 19.10.1978
115. Палякова Францішка Эмельянаўна 04.06.1953
116. Панявін Аляксандр Анатольевіч 23.08.1971
117. Папова Ганна Вячаславаўна 1990
118.Прыліпка Вікторыя Мікалаеўна 23.12.1974
119. Праваловіч Анастасія Аляўцінаўна 21.07.1994
120. Пугачова Таццяна Станіславаўна 10.08.1981
121. Пясецкі Яраслаў Аляксандравіч 12.09.1984
122. Радкевіч Уладзімір Міхайлавіч 1964
123. Рахманава Ніна Паўлаўна 18.01.1963
124.Рашчынская Ксенія Аляксандраўна 06.06.1993
125. Рамановіч Кацярына Іванаўна 1951
126. Раманоўскі Алесь Сяргеевіч 31.10.1989
127. Рудлеўскі Віктар Іванавіч 26.08.1968
128. Руткоўскі Віктар Раманавіч 17.05.1990
129. Рыбікава Ганна Сяргееўна 02.04.1990
130. Саакян Самвел Эдзікавіч 22.07.1983
131. Самуйла Юлія Вітаўтаўна 09.01.1987
132. Сантаровіч Ірына Сяргееўна 22.09.1986
133. Шаўцоў Яўген Аляксандравіч 19.03.1979
134. Сахарук Наталля Іванаўна 1978
135. Сахарчук Наталля Іванаўна 29.06.1978
136. Святлоў Кірыла Дзмітрыевіч
137. Сяледчык Віктар Уладзіміравіч 24.10.1996
138. Селіверстава Наталля Мікалаеўна 1979
139. Сялюк Надзея Сяргееўна 07.03.1987
140. Семянюк Ігар Дзмітрыевіч 08.07.1982
141. Семілетнікаў Аляксей Аляксеевіч 02.01.2009
142. Слабадзян Маргарыта Міхайлаўна 22.04.1991
143. Смірнова Юлія Станіславаўна 26.05.1986
144. Сокал Аляксандра Аляксандраўна 31.12.1989
145. Сокал Ягор Анатолевіч 31.10.1985
146. Салаўёва Ксенія Ігараўна 30.10.1994
147. Салодкая Ганна Уладзіміраўна 1981
148. Сцепановіч Алена Міхайлаўна 13.04.1976
149.Страенка Алена Уладзіміраўна 24.02.1986
150. Суднік Павел Уладзіміравіч 27.07.1990
151.Сушко Васіль Іванавіч 02.01.1956
152. Тарасава Таццяна Уладзіміраўна 25 гадоў
153.Таруц Андрэй Анатолевіч 30.06.1967
154. Цеплякоў Дзяніс Міхайлавіч 04.01.1994
155. Такавенка Аліна Вячаславаўна 20.04.1992
156. Тумаш Ігар Алегавіч 24.11.1958
157.Тураўская Юлія Сяргееўна 24.02.1989
158.Тышкевіч Андрэй Язэпавіч 08.09.1984
159.Усовіч Вячаслаў Аляксандравіч 16.03.1958
160.Фалейчык Віталь Аляксандравіч 23.05.1979
161.Фёдараў Раман Генадзевіч 21.07.1989
162. Федарцова Алена Віктараўна 07.03.1993
163.Філіповіч Алена Генадзеўна 09.11.1972
164.Фралова Вольга Аляксандраўна 05.01.1973
165. Харытановіч Ірына Анатолеўна 16.11.1962
166. Хойдым Яўген Мікалаевіч 29.04.1987
167. Худакоў Сяргей Віталевіч 10.02.1994
168. Цюцюноў Вадзім Мікалаевіч 19.02.1964
169. Чарыеў Хайдар 24.10.1992
170. Чарнышова Маргарыта Пятроўна 27.06.1975
171. Чэпікаў Міхаіл Юр'евіч 10.09.1966
172. Чысцякова Валянціна Мікалаеўна 09.02.1948
173. Чыхуноў Уладзімір Макеевіч 1935
174. Шабан Галіна Генадзьеўна 19.02.1988
175. Шакуля Віктар Аляксандравіч 03.08.1988
176. Шаховіч Зміцер Валеравіч 16.04.1990
177. Шэлепкоў Уладзіслаў Юр'евіч 18.07.1993
178. Шыла Яня Сіманаўна 08.03.1965
179. Шкель Наталля Яўгенаўна 24.09.1987
180. Шкель Святлана Яўгенаўна 20.04.1985
181. Шокель Юлія Сяргееўна 08.08.1991
182. Шубіч Марына Мікалаеўна 20.05.1988
183. Юнцэвіч Мечыслаў Станіслававіч 19.05.1960
184.Ядрова Марыя Дзмітрыеўна 25.04.1983
185.Якімовіч Іван Аляксандравіч 04.06.1990
186.Ярашэвіч Маргарыта Васільеўна 08.01.1994
187.Яскель Андрэй Станіслававіч 30.09.1989
188. Ясюкевіч Міра Рэнікаўна

# Чэмпіён Вячаслаў Харанека: «Я не загінуў па чыстай выпадковасці…»



Падчас учарашняга выбуху ў метро на станцыі «Кастрычніцкая» знаходзіўся вядомы беларускі асілак, аўтар больш 120 унікальных сілавых рэкордаў Вячаслаў Харанека.

Вось што ён расказаў карэспандэнту «Народнай волі».

— Учора на 18.00 у мяне была запланавана сустрэча, якраз на Кастрычніцкай. У 17.45 я ўзняўся па прыступках да танэля, які злучае «Кастрычніцкую» і «Купалаўскую». Стаў спінай да платформы станцыі «Кастрычніцкая» і чакаў чалавека. Прыкладна праз дзесяць хвілін я пачуў моцны хлапок... Зрэагаваў імгненна, хутка прысеў на кукішкі, гэта мяне і ўратавала... Выбуховая хваля была вельмі моцнай. Ляцелі кавалкі арматуры. Мяне зачапіла адным з іх. Каб не прысеў, дык галаву дакладна знесла б... Не загінуў па шчаслівай выпадковасці....

— Што адбывалася на «Кастрычніцкай» адразу пасля здарэння?

— Перад тым як на станцыі знікла святло, яна была моцна задымленая... Паветра было напоўнена пылам, будаўнічай крошкай... Пачалася паніка. Крык. Слёзы. Страшна гэта ўзгадваць...Я кінуўся да выхаду. Дапамог выбрацца на вуліцу яшчэ аднаму маладому хлопцу і толькі там адчуў, што са мной нешта не тое... Прыгарнуў руку да галавы і ўбачыў, што яна ўся ў крыві... Нейкая жанчына падбегла да мяне, каб аказаць першую дапамогу... Я бачыў, як у гэты момант на «Кастрычніцкую» бягуць людзі з насілкамі... Бачыў акрываўленых людзей. І зразумеў, што мне моцна пашчасціла, бо я мог стаяць на сваіх нагах...

Пасля здарэння я звярнуўся па дапамогу ў 3-ю клінічную бальніцу Мінска. Там мне на галаву наклалі некалькі швоў. Сёння я звярнуўся ў паліклініку па месцы жыхарства. Там зрабілі здымак галаўнога мозга. Быццам бы ўсё нармальна...

**Паводле nv-online.info**




## Сотні чалавек здалі кроў

для пацярпелых падчас выбуху.

«Сёння мы прынялі больш за 100 чалавек, збор крыві скончыўся каля 13:00, бо нам трэба яшчэ апрацаваць яе. Усё прайшло добра, мы хочам сказаць дзякуй усім, хто сёння прыйшоў да нас», — распавялі карэспандэнту агенцтва «Інтэрфакс-Захад» у Гарадской станцыі пералівання крыві.

У ГУ «РНПЦ гематалогіі і трансфузіялогіі» прыём донараў працягваўся да 14:00, кроў здалі каля 200 чалавек.

Прыкладна 160 донараў звярнуліся ў аўторак і ў Гарадскі цэнтр трансфузіялогіі.

**СП**

## Расія, Ізраіль і Вялікабрытанія прапанавалі дапамогу

ў расследаванні тэракта.

Расія, якая мае сумны досвед расследавання такіх здарэнняў, накіравала ў Беларусь групу следчых. Таксама сваю дапамогу ў расследаванні тэракта ў мінскім метро прапанавалі Ізраіль і Вялікабрытанія. Ізраіль накіраваў у Беларусь групу з дзевяці эксперта ў-крыміналістаў і медыкаў.

**Падрыхтаваў СП**

# «Я з параненымі нагамі сам выйшаў з метро і паехаў на таксі ў шпіталь»



25-гадовы танцор Павел Гулько ў момант выбуху ехаў на рэпетыцыю.

Хлопец цяпер знаходзіцца ў 2-й гарадской клінічнай бальніцы з аскепкавымі раненнямі ног.

— На «Кастрычніцкай» адчыняюцца дзверы, я іду на платформу, і раптам раздаецца выбух! Я адчуў невялікі штуршок і тут жа паглядзеў уніз на свае ногі. Тое, што я ўбачыў, стала для мяне шокам! У мяне былі парваныя джынсы і праз дзіркі былі бачныя кавалкі мяса. Я агледзеўся — з правага боку ўсё было ў дыме, відаць былі людзі ў лужынах крыві. З левага боку перона ўсё было нармальна, хадзілі людзі — ніхто не разумеў, што адбылося. Я не адчуваў ні болю, нічога... Было толькі адно жаданне: выбрацца з метро. Я сам падняўся па эскалатары, выйшаў на вуліцу і выклікаў таксі, каб дабрацца да шпіталя, — расказаў «Камсамолцы» 25-гадовы мінчук Павел Гулько.

Малады чалавек спадзяецца, што ў хуткім часе паправіцца і зможа танцаваць.

**Паводле kp.by**



## Да беларускіх пасольстваў нясуць кветкі і знічы

У аўторак масквічы і госці расійскай сталіцы прыносілі кветкі да будынку пасольства Беларусі. Каля дыпмісіі ставілі запаленыя свечкі і ўскладалі кветкі: гваздзікі і ружы. Людзі прыносілі запіскі з надпісамі: «Памятаем, смуткуем», «Беларусь, мы з табой. Трымайцеся».

Кветкі з'явіліся каля пасольства Беларусі ва Украіне ў Кіеве. Супрацоўнікі пасольства атрымліваюць спачуванні па тэлефонах і электроннай пошце.

Увечары 11 красавіка кветкі і знічы з'явіліся каля беларускага пасольства ў Варшаве.

**Падрыхтаваў СП**

## Аднаўленне працы Маскоўскай лініі метро адкладаецца

Раней меркавалася, што Маскоўская лінія будзе запушчана 13 красавіка, аднак затым тэрміны аднаўлення руху па першай лініі былі перанесеныя.

Аператыўна адрамантаваць станцыю, на якой 11 красавіка адбыўся тэракт, Лукашэнка даручыў гарадскім уладам на экстранай нарадзе пасля выбуху ў метро.

Другая лінія метрапалітэна — «Аўтазаводская» — працуе цяпер у поўным аб'ёме.

З мэтай ажыццяўлення перасадкі паміж першай і другой лініямі метро будзе арганізавана праца часовага аўтобуснага маршруту № 33 ст. м. «Інстытут культуры» — ст. м. «Плошча Перамогі» з выкананнем усіх прыпынкаў па трасе руху. Праязныя дакументы на метро сапраўдныя для праезду ў аўтобусах № 33. Рух аўтобусаў маршруту № 100 будзе арганізаваны па ранейшай схеме — ад аэрапорта Мінск-1 да аўтавакзала Маскоўскі. Колькасць аўтобусаў на маршруце № 100 будзе павялічана.

На перыяд закрыцця першай лініі метрапалітэна праязныя дакументы на метро дзейнічаюць ва ўсіх відах гарадскога пасажырскага транспарту, апрача маршрутных таксі.

Павялічана колькасць рухомага саставу на аўтобусным маршруце № 100, тралейбусных маршрутах № № 3, 33, 44, 46, 53, трамвайных маршрутах № № 1, 6. 12 красавіка арганізавана праца часовага аўтобуснага маршруту № 33 ст. м. «Інстытут культуры» — ст. м. «Плошча Перамогі» з выкананнем усіх прыпынкаў па трасе руху. Рух аўтобусаў маршруту № 100 арганізаваны да станцыі метро «Уручча».

**БелаПАН**

# Палкоўнік Барадач: Выбухоўку падклалі супрацоўнікі адной са спецслужб

**Палкоўнік вайсковага спецназа ў адстаўцы Уладзімір Барадач выклаў версію мінскага тэракта: ахвяра сярод апазіцыі, якую абвінавацяць у выбуху, ужо знойдзеная.**



Вось што ён, у прыватнасці, піша: «Першае пытанне. Каму выгадна? Расіі? Не, Расія, схаваўшы галаву ў пясок, сканфужана падтрымала і змушаная цяпер з усіх сухажылляў выцягваць Лукашэнку з палітычнага і эканамічнага калапсу. Яна не гатовая ў бліжэйшыя два гады замяніць свайго стаўленіка. Пагаршаючы становішча Лукашэнкі, яна стварае сама сабе цяжкасці.

Апазіцыя. Лідары апазіцыі, якія баяцца падрыхтаваць нават план вулічных мерапрыемстваў, памруць ад адной думкі пра падрыхтоўку і, ужо тым больш, пра правядзенне тэракта. Акрамя таго, для апазіцыі гэта палітычная смерць. І ўлады выгодна сёння выявіць менавіта гэты след.

Я выключаю заходні след.

Наіўны Захад карміў і падтрымліваў лукашэнкаўскую апазіцыю на працягу 17 гадоў. І цяпер ён у шоку і не хоча ў гэтым сабе прызнацца. Пакуль ён здольны паўплываць толькі на сэксуальную арыентацыю Раманчукоў, Мілінкевічаў, і не больш за тое. Захад вырашае цяпер асноўныя пытанні ў Афрыцы, Лівіі. Беларусь пакінутая пакуль што Расіі. Таму ніякага сэнсу ў Захаду няма здзяйсняць тэракты ў гэтай краіне.

Рэжым. Нелегітымны рэжым як ніколі, адразу пасля выбараў на мяжы палітычнага і эканамічнага банкруцтва. Галапуючая інфляцыя, рост цэн, падзенне даходаў выклікае нянавісць і недавер да рэжыму.

Кандыдаты ў прэзідэнты Саннікаў, Статкевіч, Някляеў, Вус, якія прадказвалі такую карціну яшчэ ўчора, знаходзяцца пад арыштамі ці ў турмах. Акрамя таго, краіна напярэдадні паказальнага палітычнага працэсу. Паважаных у грамадстве людзей будуць вінаваціць у падрыхтоўцы незаконнага захопу ўлады, асноўным сведчаннем якога з'яўляюцца пабітыя шыбы ў дзвярах адміністрацыйнага будынка. Грамадская думка на баку падсудных.

Пасля адкрытага, хлуслівага судзілішча Беларусь чакала б імклівае эканамічнае падзенне і страта іміджу рэжыму.

Якія задачы вырашаюць выбухі ў дадзенай сітуацыі?

Гэты выбух звяжуць, безумоўна, са змовай апазіцыі ад 19 снежня, кіраванай Захадам. Будзе знойдзены чалавек, звязаны з якімсьці апазіцыйным рухам, які быў побач з пакетам, знойдуць у яго на адзежы хімічныя элементы, пакінутыя ў выніку кантакту з выбуховымі рэчывамі і сродкамі падрывання, знойдуць у яго ідэнтычныя элементы выбухной прылады ў каморы — і злачынства будзе «раскрыта».



ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

**Мінчукі нясуць кветкі да Кастрычніцкай.**

«Чалавек гэты абраны ўжо спецслужбамі, — робіць гіпотэзу палкоўнік Барадач, — а пасля таго, як яго зафіксавалі камеры назірання на станцыі (а ён сапраўды быў на гэтым маршруце), спецыялісты ўсталявалі пад лаву выбухоўку, выйшлі ў бяспечную зону, дачакаліся прыходу цягнікоў і прывялі выбухную прыладу ў дзеянне. Чалавек яшчэ і ўявіць сабе не можа, якое пекла яму давядзецца прайсці на гэтай зямлі, з'яўляючыся разменнай і ўсімі пагарджанай манетай у гэтым палітычным спектаклі. Гэту ахвяру абстаўляюць цяпер рэчыўнымі доказамі», — мяркуе палкоўнік Барадач.

**СГ**

*Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.*

## Генпракуратура папярэдзіла Мілінкевіча, Старыкевіча і Костку

**Але забылася пра Мусіенку і Давыдзьку.**

За «распаўсюджанне неабгрунтаванай інфармацыі аб трагічных падзеях у Мінскім метрапалітэне» Генпракуратура вынесла папярэджанні лідару Руху «За свабоду» Аляксандру Мілінкевічу, рэдактару інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Аляксандру Старыкевічу і былому супрацоўніку КДБ Валеру Костку.

«Неабгрунтаваныя звесткі і дадумкі, накіраваныя на дыскрэдытацыю беларускага грамадства і дзяржавы», — гаворыць пра іх заявы і артыкулы пракуратура.

У паведамленні пракуратуры гаворыцца, што названыя асобы з папярэджаннем пагадзіліся і «абавязаліся ў далейшым выключыць са сваёй дзейнасці факты распаўсюджання неабгрунтаванай інфармацыі».

«Гэта не так, — абвергнуў сп.Старыкевіч у размове з карэспандэнтам «НН». — Я не згодны з папярэджаннем». Ён дадаў, што размова з пракурорам была ветлівай і кожны застаўся пры сваім.

А.Старыкевіч не ведае, чаму менавіта ён атрымаў папярэджанне: «Гэта ў Генпракуратуры трэба пытацца. Я ўвогуле трапіў у нядрэнную кампанію». Выбітны журналіст абяцае працягваць сваю прафесійную дзейнасць і публікаваць матэрыялы аб тэракце. «Прычым асвятляючы розныя пазіцыі. У гэтым заключаецца праца журналіста», — зазначыў Старыкевіч.

Аляксандра Мілінкевіча, як і А.Старыкевіча, папярэдзілі аб адказнасці праз тэлефон. «Мне сказалі, што мае словы перашкаджаюць следству. Папярэдзілі аб адказнасці за зробленыя заявы. Аднак я, шчыра кажучы, не разумею, што ў маіх словах магло перашкодзіць следству. Працягваю даваць інтэрв'ю, агучваю свае меркаванні», — паведаміў А.Мілінкевіч.

**АП**

## Лукашэнкаўскі палітолаг Мусіенка: «Тэракт — вынік залішняга лібералізму да апазіцыі»

Кіраўнік аналітычнага цэнтра «Экаом» Сяргей Мусіенка лічыць тэракт у мінскім метро 11 красавіка вынікам «папушчальніцтва і залішняга лібералізму ўладаў у стаўленні да апазіцыі».

Матывуючы у гутарцы з карэспандэнтам агенцтва «Інтэрфакс-Захад» сваё меркаванне, палітолаг адзначыў, што «пад цiскам так званай» сусветнай праваабарончай грамадскасці «крымінальныя справы ў дачыненні да пагромшчыкаў Дома ўрада 19 снежня 2010 перакваліфікуюцца так, каб у выніку мінімізаваць заслужанае пакаранне, а некаторых пагромшчыкаў наогул павыпускалі з СІЗА».

«Адзін з актывістаў апазіцыі [экс-кандыдат у прэзідэнты Казулін] стаў раздаваць інтэрв'ю, у якім паспяшаўся абвінаваціць дзеючую ўладу ў арганізацыі тэракта. Маўляў, гэта зроблена для таго, каб адцягнуць людзей ад сацыяльна-эканамічных праблем», — сказаў С.Мусіенка. Ён лічыць такія заявы «абсурднымі па сваёй сутнасці».

**СГ**

## Давыдзька: нашай краіне абвясцілі вайну

У праграме «Белорусское времечко» на канале «Лад» старшыня Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька сказаў, што на перадачу пазваніў невядомы, які сказаў: «Ага, так і трэба вам. Мы і далей так будзем рабіць. Яшчэ болей, таму што пры ўладзе не тыя людзі, хто трэба!»

«Не ўсе разумелі гэта 19 снежня, — працягваў Давыдзька, — не ўсе разумелі, калі з-за мяжы патрабавалі санкцыяў, не ўсе разумелі падчас арганізацыі валютнай і цукровай панікі, што нашай краіне абвясцілі вайну. Цяпер гэта стала зразумела. Нам абвясцілі вайну!»

Такім чынам, рулявы ідэалагічнага рупара лукашэнкаўцаў звязаў у адно паслявыбарныя пратэсты, эканамічныя праблемы і сённяшні тэракт. Застаецца чакаць, хто будзе прызначаны вінаватым.

**Алесь Пілецкі**

## Казулін: Каму выгадна?

«Камусьці вельмі выгадна, каб увага ад сацыяльна-эканамічных праблем пераключылася на нешта іншае», — сказаў Газеце.Ru экс-кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі Аляксандр Казулін. Ён таксама адзначыў, што пасля нарады прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з сілавымі структурамі краіны «мы пачуем шмат усяго цікавага».

Аляксандр Казулін заявіў, што абставіны таго, што адбылося 11 красавіка, высветляцца толькі пасля таго, як улады раскрыюць акалічнасці тэракта 3 ліпеня.

**СГ**

## Мілінкевіч: выбух выгадны тым, хто хоча справакаваць палітычныя рэпрэсіі

Лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч перакананы: тэрарызм — гэта не наша гісторыя і традыцыя. Здзяйсненне тэракта выгаднае тым сілам у краіне і за яе межамі, што зацікаўленыя ў дэстабілізацыі абстаноўкі ў Беларусі. Гэтым сілам важна справакаваць яшчэ больш жорсткія палітычныя рэпрэсіі і ў выніку руйнаваць шанец нашай дзяржавы на еўраінтэграцыю, аслабляць яе незалежнасць, заявіў ён.

**СГ**

## Дзясяткі краін выказалі спачуванні беларусам

Першым увечары 11 красавіка выказаў афіцыйныя спачуванні прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў. На працягу наступных пасля выбуху гадзін прыходзілі спачуванні ад кіраўнікоў Ізраіля, Казахстана, Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны, Фінляндыі, Эстоніі. Словы падтрымкі выказалі генсек ААН Пан Гі Мун, дзейны старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Літвы Аудронюс Ажубаліс і дырэктар офіса Беларусі, Украіны і Малдовы бюро Еўропы і Еўразіі дзярждэпа ЗША Лорэнс Сілверман.

### Спачуванні ад беларусаў свету

«Страшная трагедыя для ўсяго беларускага народа. Хай Гасподзь дасць сіл перажыць гэтае гора!» — гаворыцца ў звароце ўправы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

# Лябедзька: Лепш адгрызу сабе руку, чым адмоўлюся ад таго, у што веру

**Лябедзька адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.**

Увечары 6 красавіка з турмы КДБ «амерыканкі» выйшаў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Як кажа сам палітык, яго вывезалі, у 22:30 на «апошняй маршрутцы КДБ».

Абвінавачванне ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў з яго ўсё яшчэ не знятае.

Так супала, што 7 красавіка акурат мусіў прайсці чарговы Нацыянальны камітэт АГП. Ужо з раніцы ўсе чакалі на ім Анатоля Лябедзьку.

Старшыня з'явіўся ўжо з букетам ружаў. Лябедзька з доўгімі валасамі, як у хіпі. Яшчэ больш пахудзеў, хоць здавалася, куды. Але характэрнае пачуццё гумару Лябедзька захаваў і ў турме.

Нават камунікаванне з журналістамі ён пачаў з жарту. «Хачу зрабіць палітычную заяву: мяне вызвалілі на Нацкам партыі. У залежнасці ад таго, як ён пройдзе, будзе залежаць, ці вярнуся назад, ці застануся тут».

«Я знаходзіўся ў інфармацыйнай ізаляцыі. Ведаў толькі, што ў сям'і. Самае галоўнае — мама перастала плакаць. У мяне было мала кантактаў з людзьмі, што мяне забралі. На першай сустрэчы мне сказалі, калі я зраблю пэўныя заявы, то літаральна ў гэты ж дзень магу быць дома. Я паказаў следчаму сваю правую руку. І сказаў, што хутчэй яе адгрызу, чым адмоўлюся ад таго, у што веру, ці скажу супраць некага», — зазначае Лябедзька. Наступны раз следчага ён пабачыў толькі ў 2011 годзе.

«Тры невядомыя асобы сказалі самае галоўнае. «Анатоль Уладзіміравіч, за вамі цягнецца здаравенны шлейф грахоў». — «Але я не бачу перад сабой Ісуса Хрыста, каб ён мог вызначаць мае грахі», — абрэзаў іх Лябедзька. Гэта былі адзіныя ягоныя кантакты з кадэбістамі за тры месяцы зняволення.

«Я знаходзіўся ўвесь гэты час у стане закладніка. Для чаго? Для бартэру ці нечага іншага, я не ведаю. У такой самай ролі і Павел Севярынец».

Прыкладна ў той самы момант у офісе АГП з'явіўся Аляксандр Казулін. Лябедзька адразу ж абняўся з ім. «Многія вас там памятаюць. Сустракаў людзей, якія гаварылі пра Чыгіра, пра Валодзю Кудзінава. Узгадвалі іх добрым словам».

З чатырма ўдзельнікамі крымінальнай справы па 19 снежня старшыня АГП знаходзіўся ў адной камеры. «Алесь Кіркевіч — малайчына, усё нармальна ў яго. Праўда, некаторыя праз тое, што ён моліцца, думаюць, што ён мусульманін, — пажартаваў ён. — Я быў з Малчанавым, калі мы ляжалі на драўляных канапах. Мне пашанцавала, калі перавялі з адной камеры ў іншую, то застался «шконка» ад Фядуты, яна на дзве дошкі шырэйшая. Дык я там катаўся як сыр у масле. Сустракаўся з Уладзімірам Яроменкам, аддаў яму сваё шкарпэткі. І з Аляксандрам Арастовічам быў самы працяглы час. У косці я ў яго выйграў», — расказаў пра сукамернікаў.

«Снежань і студзень былі ў турме на надзвычайнай сітуацыі, з усімі наступствамі. У лютым пачалося пацяпленне. А ў сакавіку я сябе адчуваў нармальна. Не было жадання паглядзець, як я выглядаю без адзення», — Лябедзька тым самым фактычна пацвярджае словы Міхалевіча аб катаваннях у КДБ у першы месяц зняволення.



«Самае галоўнае — мама перастала плакаць».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Лябедзька адпусціў валасы, але не змяніўся.**

«Было ўсё. Ніводзін чалавек там не можа адчуваць сябе нармальна. Вельмі кепска тым людзям, што да гэтага не падрыхтаваныя фізічна і маральна. Я адтуль выйшаў фізічна мацнейшым. Бо кожныя дзве гадзіны на шпацыры я адціскаўся па тысячы разоў».

«У турме я стаў паэтам. Лаўры Някляева не даюць мне спакою. Пры вызваленні ў мяне забралі чатыры сшыткі, адзін з якіх быў з вершамі. Пачаў пісаць апавяданне «Лёлік». Гэта пра галуба, з якім я кожны раз вітаўся на шпацыры. Ён здзіўлена глядзеў на нас. Звычайна ж птушкі ў клетцы, а тут наадварот», — расказвае пра свае літаратурныя практыкаванні Лябедзька.

«Страшна першы дзень, страшна другі дзень. На чацвёрты гэты страх прападае. Я сказаў, што яны рыхтуюць новае пакаленне апазіцыі, якая не будзе баяцца. Яны будуць ненавідзець. Мяне таксама спрабавалі скінуць у нішу нянавісці, але я не паддаўся. Я нават на міліметр не адышоў ад таго чалавека, якога вы ведалі раней», — гаворыць палітык.

Ён пацвердзіў існаванне людзей у чорных масках, пра якіх казаў Алесь Міхалевіч. Менавіта яны ўдзельнічалі ў катаваннях. «Я іх называў «добрыя людзі». Калі кажуць, што ногі павінны быць на расцяжцы на 70 сантыметраў, то я рабіў на 1 метр 30 сантыметраў. Гэта рабілі, каб прынізіць, а ты робіш больш, то яны разгубленыя».

«Я быў на гэтым выбарах героем другога плана: ні кандыдат у прэзідэнты, ні кіраўнік штаба. Але так я ім спадабаўся, што вырашылі: Лябедзьку на «Тэфі» трэба вылучыць», — смяецца сп.Анатоль.

**Зміцер Панкавец**

# Фядута: «Мы планавалі дабівацца перамоваў з Сідорскім»



**У турме Фядута пахудзеў на 15 кг і адгадаваў вусы.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**8 красавіка з ізалятара КДБ таксама выйшаў каардынатар кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Фядута.**

Ён даў вялікае інтэрв'ю для «Нашай Нівы». Пытанні тычыліся ўмоваў утрымання ў камеры, а таксама падзеяў на Плошчы 19 снежня.

З адказаў Фядуты паўстаюць новыя дэталі Плошчы.

«Спачатку ўсё ішло па плане «Гавары праўду», нягледзячы на тое, што Някляева не было. Пазнейшыя падзеі — сведчанне таго, што дамовіцца не змаглі. Дамовіліся пра маршрут, але не пра тактыку.

Насамрэч мы сапраўды дабіваліся перамоваў. Гэта было нашай мэтай. Перамоваў з Сідорскім. Калі б ён быў палітыкам, то нешта б сказаў. Напрыклад, што ён прыняў рашэнне падтрымаць Лукашэнку. Застаецца толькі адзіны суб'ект перамоваў — Лукашэнка. Тады і падзеі на Плошчы трэба было будаваць інакш. Сідорскі не кажа нічога, то трэба стаяць і чакаць яго адказу. Замест гэтага ж нехта пачынае біць шкло.

Петыцыю Сідорскаму мусіў падаваць менавіта Някляеў.

Чаму дабіваліся перамоваў з Сідорскім? Па адной простай прычыне. Справа ў тым, што па Канстытуцыі, калі прэзідэнт не абраны, то кіраўніком дзяржавы становіцца прэм'ер-міністр. Дарэчы, я да апошняга чакаў, што мне зладзяць вочную стаўку з Сідорскім, такія ўжо допыты былі.

Я сапраўды размаўляў з Вольгай Някляевай, што дэманстравалі на БТ. Я ведаў толькі, што пайшлі на перамовы ў Дом урада, але я не ведаў пра біццё шкла. Мне здавалася, што ўсё ідзе па нашым плане. Таму і сказаў «ён ведае», калі гаворка ішла пра «нашых ва ўрадзе».

**ЗП**

**Поўную відэаверсію інтэрв'ю чытайце на nn.by.**

# НІСЭПД: Сенсацыйныя змены ў геапалітычных арыентацыях беларусаў

**Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў апублікаваў звесткі апытання, праведзенага ў красавіку.**

Апытанне выявіла пагаршэнне эканамічнага самаадчування беларусаў. Больш людзей лічаць, што іх дабрабыт знізіўся за апошні час. З нарастаннем эканамічных праблем зніжаецца і давер да Аляксандра Лукашэнкі. Пяць гадоў таму, пасля папярэдніх выбараў, яму давяралі 60% апытаных. На сёння гэтая лічба ўпала ніжэй за палову — да 47%.

Прыкладна 50 на 50 размеркаваліся ацэнкі таго, ці правільна дзейнічалі ўлады 19 снежня.

Палова апытаных лічыць, што ўлады слушна спынілі спробу дзяржаўнага перавароту. Другая палова мяркуе, што адбыўся разгон мірнай акцыі пратэсту.

Але самае галоўнае, што канстатуюць сацыёлагі: няўхільнае ўмацаванне еўрапейскага выбару.

На сёння ўжо больш за 50% апытаных упэўнена выступаюць за еўрапейскі выбар Беларусі. Доля прыхільнікаў саюза з Расіяй упала да 30%.

Пасля выбараў 2006 года на пытанне: «Калі б цяпер у Беларусі праводзіўся рэферэндум з пытаннем, ці ўступаць Беларусі ў Еўрапейскі Саюз, якім быў бы Ваш выбар?» «За» адказалі 31%, а «супраць» — 49%. Сёння гэтыя суадносіны памяняліся да наадварот: 49% супраць 30%.

У 2006 годзе на пытанне: «Калі б сёння праходзіў рэферэндум аб'яднанні Беларусі і Расеі, як бы Вы прагаласавалі?» за аб'яднанне выступалі 42%, а супраць аб аб'яднання — 38%. Сёння за аб'яднанне з Расіяй засталася абсалютная меншасць: 29%, а 53% супраць.

А вось як дыяметральна змяніліся адказы на пытанне: «Калі б давялося выбіраць паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрапейскі Саюз, што б Вы выбралі?» Пяць гадоў таму аб'яднанне з Расіяй выбралі 56%, а ўступленне ў Еўрасаюз — 29%. Сёння гэтыя суадносіны складаюць 31% да 50%.

Як высветлілася, толькі 40% рэспандэнтаў лічаць, што на нядаўніх выбарах Аляксандр Лукашэнка набраў столькі галасоў, колькі абвясціла Ярмошына.

А вось 24% беларусаў упэўнены, што цяперашні кіраўнік дзяржавы не набраў большасці галасоў. Яшчэ 35% мяркуюць, што за Лукашэнку прагаласавала большасць, але ўсё ж ён набраў менш галасоў, чым яму налічыў ЦВК. Такім чынам, каля 60% беларусаў думаюць, што ўлада ў той ці іншай ступені сфальшавала вынікі выбараў.

**Мікола Бугай**

# Апазіцыя рыхтуецца да байкоту

**Калі ў краіне застануцца палітвязні, будзе байкот парламенцкіх выбараў.**

Пра гэта заявіла Нацыянальная каардынацыйная рада дэмакратычнай апазіцыі.

«Татальныя рэпрэсіі, пачатыя 19 снежня, нясуць пагрозу грамадству і самому існаванню Беларусі як незалежнай дзяржавы. Існуючы рэжым загнаў сябе ў эканамічны і геапалітычны тупік, зрабіў закладнікамі сваёй безадказнай палітыкі ўсё грамадства і краіну», — адзначаецца ў дакуменце.

Каардынацыйная рада дэмсілаў патрабуе, каб народу Беларусі было вернута права фармаваць уладу ў сваёй краіне праз свабодныя, дэмакратычныя і справядлівыя выбары.

Раней з ініцыятывай байкоту выбараў і ўладаў выступіў былы палітвязень Аляксандр Казулін, а таксама палітыкі, блізкія да Андрэя Саннікава.

**ЗП**

# На «Беларускі партызан» партызанскімі сцежкамі

**Дзяржаўная інспекцыя па электрасувязі ўнесла сайты Charter97.org і Belaruspartisan.org у спіс абмежаванага доступу.**

Адпаведную пастанову Генпракуратура вынесла яшчэ 23 сакавіка. Падставай для блакавання непажаданых сайтаў, паводле беларускіх уладаў, з'яўляецца Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

«Мы даўно гэтага чакалі, рашэнне не стала нечаканасцю ні для нас, ні для нашых чытачоў. У нас неаднаразова з'яўляліся публікацыі, дзе тлумачыліся альтэрнатыўныя шляхі доступу да сайтаў у выпадку блакавання, у прыватнасці праз проксі-серверы», — паведаміў карэспандэнту «НН» рэдактар «Беларускага Партызана» Павел Шарамет. На яго думку, падобныя абмежаванні будуць толькі спрыяць развіццю незалежнага сегмента беларускага інтэрнэту: «Такія дзеянні толькі ўздымуць цікавасць да нас».

Атрымаць каментар у інтэрнэт-правайдараў не ўдалося. «У нас няма адказаў на вашы пытанні», — казалі яны.

Даведацца, колькі цяпер сайтаў у «чорным спісе», немагчыма — ён даступны толькі правайдарам. На сайце інспекцыі ёсць і адкрыты спіс такіх сайтаў, аднак ён пусты — там няма ніводнага запісу.

«Мы не можам паведаміць вам, да якіх сайтаў абмежаваны доступ, колькі іх, якога характару. Гэта закрытая інфармацыя, прызначаная толькі інтэрнэт-правайдарам», — паведаміў супрацоўнік ДІЭ.

Аднак існуе некалькі шляхоў, якія дазволяць абысці ўсе абмежаванні. Самы просты спосаб — выкарыстанне сайта-ананімайзера ці проксі-сервера. На старонку газеты трэба будзе заходзіць не наўпрост, а ў абыход. Дзе шукаць ананімайзеры? Дастаткова на любым сайце-пошукавіку набраць «веб-проксі» ці «веб-ананімайзер» — і з'явяцца дзясяткі варыянтаў. Калі нейкі з ананімайзераў не працуе — а закрываюцца яны часта, — варта пашукаць іншы.

**Алесь Пілецкі**




**Графіці на чыгуначнай станцыі «Беларусь» у Заслаўі.**

СЯМЁН ПЕЧАНКО

# З'явіўся сайт імя Пятра Пракаповіча

**На ім — навіны пра сітуацыі на валютным рынку з вострымі сатырычнымі акцэнтамі.**

У сеціве з'явіўся сайт prokopovi.ch, прысвечаны сітуацыі на валютным рынку краіны. Яго аўтары збіраюць і перадрукоўваюць з іншых навінных рэсурсаў інфармацыю, якая тычыцца фінансавай сітуацыі ў Беларусі, палітыкі дзяржавы ў гэтым кірунку і спадарожных тэмаў.

Навіны аздабляюцца сцёбнымі цэтлікамі (напрыклад, пад каментаром Зімоўскага — «мыйце рукі з мылам»), якія дазваляюць меркаваць, што ствральнікі думаюць пра тую ці іншую інфармацыю.

«Задача гэтага сайта, — паведамляецца ва ўступным слове ад стваральнікаў, змешчаным побач з партрэтам Пракаповіча, — прадухіліць паніку на валютным рынку Беларусі і даць магчымасць усім грамадзянам нашай краіны спакойна і без клопату абменьваць валюту па самым выгадным курсе ў сваім родным горадзе.

Насуперак пашыраным перакананням, трэба гэта не толькі рэспектабельным валютчыкам у спартыўных штанах і са скуранымі барсеткамі, і не столькі крэдытным арганізацыям тых краін, дзе нас яшчэ не ведаюць і чакаюць, але кожнаму беларусу. Мы будзем прыкладаць усе намаганні для своечасовага і поўнага інфармавання вас пра грашова-крэдытную палітыку краіны ў раздзеле навін, а акрамя гэтага, дамо вам магчымасць пазнаёміцца з людзьмі, у якіх ёсць самы каштоўны і неабходны цяпер тавар — валюта».

**СМ**

# Расійская ФСБ хоча забараніць Skype і Gmail

**Бо не кантралюе перапіску на гэтых рэсурсах.**

ФСБ бачыць у сервісах Skype, Gmail і Hotmail пагрозу нацыянальнай бяспецы і прапанавала іх забараніць. Фактычна спецслужбы прызналі, што не маюць доступу да пошты Gmail і не могуць кантраляваць зносіны па Skype.

Пасля бурнай дыскусіі было вырашана стварыць міжведамасную працоўную групу, якая да 1 кастрычніка павінна выпрацаваць прапановы ўрада.

**СП**

# Вікторыя Азаранка — пятая ракетка свету

**11 красавіка быў абнародаваны новы рэйтынг-ліст Жаночай тэніснай асацыяцыі.**



Дзякуючы перамозе на турніры ў Марбелы, дзе беларуская тэнісістка з лікам 6:3, 6:2 перамагла румынку Ірыну-Камелію Бегу, Вікторыя Азаранка ўзнялася на пяты радок у сусветным рэйтынгу. Дагэтуль найлепшым дасягненнем беларускі было 6-е месца.

Турнір у Марбелы стаў другім запар пераможным для беларускі. На мінулым тыдні яна стала пераможцай прэстыжнага турніру ў Маямі, а наогул гэта ўжо сёмы тытул Вікторыі ў турнірах у індывідуальным разрадзе.

Цяпер у Азаранкі — 4 630 балаў. Вышэй за яе — Каралін Вазняцкі (Данія, 9 930), Кім Клейстэрс (Бельгія, 8 115), Вера Званарова (Расія, 7 815), Франчэска Ск'явоне (Італія, 5 171). На 6-м месцы — Саманта Стосур (Аўстралія, 4 606).

У чэмпіёнскай гонцы WTA Вікторыя Азаранка знаходзіцца на 4-м месцы з 2 056 баламі. Першыя тры месцы займаюць Каралін Вазняцкі — 3 731, Кім Клійстэрс — 3 030, Вера Званарова — 2 156.

**АГ**

# На беларускім інтэрнэт-аўкцыёне выставілі купюру 100 даляраў

**Лот пратрываў паўтара дня і быў зняты адміністрацыяй сайта.**

Купюру наміналам $100 выставілі на таргі інтэрнэт-аўкцыёна ay.by апоўдні ў суботу. Відавочна, гэта быў жарт, выкліканы валютным крызісам у Беларусі. Пры жахлівым валютным ажыятажы ў Беларусі каму хочацца здаваць валюту ў абменнікі па курсе, прапанаваным Нацбанкам? У апісанні пазначалася, што банкнота 2006 г. выпуску, знаходзіцца ў выдатным стане, колер — зялёны.

Наведнікам было прапанавана купіць купюру, даўшы сваю цану, вышэйшую за курс Нацбанка. Вечарам у нядзелю за $100 прапаноўвалі 355 тыс. рублёў. Але а 19-й гадзіне нядзелі лот быў зняты з таргоў адміністрацыяй ay.by. (ён быў дзейны да 16 красавіка). За паўтара дня лот прагледзелі 3 967 чалавек. У каментарах жартавалі, што аўкцыён выйграе Пятро Пракаповіч.

**АГ**




**Блогер flasherrr выклаў у сваім дзённіку сатырычны каляндар-прагноз на 2012 г. Тут і праблемы з валютай, і харчовая паніка, і Астравецкая АЭС.**

# Пад Наваградкам усталявалі гіганцкі вятрак

**Ён будзе выпрацоўваць 1/6 неабходнай для горада электраэнергіі.**

Праз некалькі тыдняў у вёсцы Грабнікі, што пад Наваградкам, запрацуе гіганцкі вятрак кітайскай фірмы HEAG коштам $3 мільёны. Яго ўсталявалі на вышыні 315 м над узроўнем мора — на адной з найвышэйшых гор краіны. Да ўстаноўкі праклалі праз поле асфальтаваную дарогу.

Магутнасць ветрака складае 1,5 мВт пры неабходных для горада 9 мВт. У будучыні тут плануюць усталяваць яшчэ 6-8 установак, каб цалкам забяспечыць Наваградак электраэнергіяй.

У Грабнікі вятрак трапіў з Кітая па моры праз Гамбург. У Беларусі не знайшлося неабходнай тэхнікі для мантажу ветрака. Давялося шукаць у суседзяў. Палякі запрасілі 35 тыс. еўра за суткі за арэнду шматтоннага крана, расійцы — у 5 разоў менш. З імі і заключылі дамову. Мантаж ветрака зацягнуўся з прычыны моцнага ветру. Таму, магчыма, працаваць ён пачне ў пачатку мая, а не пры канцы красавіка, як планавалася раней.

**Сямён Печанко**

**Тэхнічныя характарыстыкі:**

Магутнасць: 1,5 мВт.

Вышыня: 122 м (лопасць знаходзіцца ў верхняй кропцы). Вага адной лопасці: 6 т.

Мінімальная хуткасць ветру, пры якой пачынае працаваць вятрак: 3 м/с.



СЯМЁН ПЕЧАНКО

# Вялікдзень — 24 красавіка

**Сёлета, як і год таму, яго разам святкуюць каталікі, праваслаўныя і пратэстанты.**

Вялікдзень — дзень уваскрасення Ісуса Хрыста. Напярэдадні свята ці на самым яго пачатку людзі нясуць асвячаць у храм розныя стравы: яйкі, пірагі, мяса, сыр, соль.

**Кастусь Матушыч**

# У клуба 5000 з'явіўся сайт

**Суполка, што збірае грошы для анкахворых дзяцей, займела сваю старонку ў нэце.**

Цяпер даведацца пра дзейнасць Клуба 5000 і далучыцца да суполкі можна на сайце club5000.of.by.

Прынцып дзеяння Клуба 5000: яго сябры раз на месяц выдаткоўваюць на патрэбы хворых дзяцей невялікую суму — ад 5000 тысяч рублёў на кашалёк Easy Pay № 08492425. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні.

**СП**

# На ваенным становішчы

«Беларуская вясна-2011» — ажыятаж у крамах і бойкі за валюту.

Валютны ажыятаж за апошні тыдзень адышоў на другі план. Ці то выпадкова, ці то знарок, але ў беларускія рэгіёны былі ўкінутыя чуткі пра магчымае падаражанне цукру, алею і крупаў удвая. «Вось убачыце, ад заўтра цукар будзе па 7 тысяч прадавацца! Бярыце лепш пра запас», — пад сакрэт расказвалі прадавачкі ў крамах ва ўсёй краіне. А людзі і радыя...

Тыдзень таму цукар скуплялі на Брэстчыне, пасля — на Гродзеншчыне. Урэшце, пад канец тыдня сітуацыя дакацілася і да Мінска, дзе вырасла да гратэскавых памераў.

Шматкіламетровыя чэргі на заезд на сталічныя рынкі, апусцелыя паліцы гіпермаркетаў і натоўп, якія накідваецца на падвезеныя каляскі з новым таварам. Гэта не дакументальная хроніка часоў СССР, а рэальнасць XXI ст. Як сімвал новай эпохі гіганцкая аб'ява на дзвярах аднаго з найбольшых складоў Беларусі, мінскага «Еўраопта», дзе закупляліся дробныя прадпрымальнікі з рэгіёнаў, — «з 11 красавіка дробнаалтовая секцыя не працуе». Раскупілі ўсё, нават пітную ваду.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Запас бяды не чыніць.

### Беларуская сыравіна ў Расіі, а бразільская — у Беларусі

Падстава для «цукровай панікі» — у рэзкім росце цэнаў то на адны, то на другія тавары. У той жа час цукар калі і падаражэе, то апошнім: Беларусь яго не імпартуе, цана на яго вызначаецца зверху. Кіраўнік «Белдзяржхарчпрама» Іван Данчанка заяўляе, што на складах ляжыць яшчэ 165 тысяч тон цукру.

Праўда, падаражэць можа і ён. Беларускі цукар робіцца з імпартнага бразільскага ці аргенцінскага трыснягу, у той час як прадукт, выраблены з беларускай сыравіны, ідзе на продаж у Расію. Дэвальвацыя беларускага рубля падніме цану на кілаграмовыя ўпакоўкі ў той жа ступені, што і на большасць астатніх тавараў. Перавага цукру, як і крупаў, у доўгім тэрміне захоўвання. Хоць запалкі і соль у крамах пакуль яшчэ не раскупленыя.

### Дзіця без памперсаў, бацька без цыгарэтаў

Нашмат складанейшая сітуацыя з іншымі таварамі, запасы якіх на складах ужо сканчаюцца. Напрыклад, з 6 красавіка «Тытунь-Інвест» перастаў адгружаць цыгарэты сярэдняга цанавога дыяпазону, накшталт «Вінстана», «Мантэ-Карла» і «Вэста». Але ў цыгарэтаў ёсць хаця б танныя і дарагія адпаведнікі. А памперсы — яны і ў Беларусі памперсы. У сталіцы іх ужо не засталося, і ў бліжэйшы час яны наўрад ці з'явяцца. Пастаўшчыкі прыціхлі ў чаканні новага курса даляра, а мінчукі тым часам выпраўляюцца на закупы ў Маладзечна і Жодзіна з Барысавам, дакуль дэфіцыт яшчэ не дайшоў.

Знайсці алей па старых цэнах таксама задачка не з лёгкіх. Мінскі маргарынавы завод, як і вытворчасць у Бабруйску, ужо падняў цэны на прадукцыю. Імпарцёры не маюць валюты, каб прывезці тавар і задаволіць попыт насельніцтва.

### Бойкі за даляры

Купіць валюту ў абменніках па-ранейшаму немагчыма, калі толькі не адстаяць начную чаргу такіх самых ахвотных набыць даляры ці еўра. Да такога парадку беларусы пачынаюць прывыкаць. Сапраўдны шок у наведвальнікаў інтэрнэту выклікаў відэаролік, зняты днямі на ўваходзе ў мінскім гандлёвым цэнтры «Карона». У першыя ж секунды пасля ранішняга адкрыцця ў дзверы ўрываецца натоўп з некалькіх дзясяткаў ашалелых людзей, якія, штурхаючыся і растоптваючы тых, хто ўпаў, кідаюцца да абменнікаў у пошуках валюты... Як сумна жартуюць у чэргах, калі запусціць чутку, што новы абменнік адкрыўся ў Доме ўрада, новая Плошча збярэцца ля дзвярэй за паўгадзіны.

**Яўген Васількоў**

**У каго які курс даляра?**

Нацыянальны банк — 3046

Банкі, абменнікі — 3106

Дазволены Нацбанкам курс продажу прадпрыемствам — 3350

Курс у банках для аплаты валютных крэдытаў рублямі — 3350—3500

Рэальны курс пры аперацыях паміж прадпрыемствамі — 3300—4500

Інтэрнэт-крамы — 3500—4000

Аўтарынкі — 3800—5000

Рынак «Ждановічы» — 3600—4500

# Чарговая саступка Маскве

Падаткі за ўвоз расійскіх іншамарак пойдуць не ў беларускі, а ў расійскі бюджэт.

Прэзідэнцкі ўказ №130, падпісаны 4 красавіка, часткова змяніў правілы гульні на аўтамабільным рынку.

Першая рэформа стварае ў краіне сістэму «трэйд-ін». Цяпер стары аўтамабіль кіроўцы можа быць залічаны ў кошт новага. Раней сістэма працаваць не магла, бо ад выплаты ПДВ вызваляўся толькі першы пастаўшчык аўтамабіля, а кожны наступны прадавец мусіў выплаціць 20%-ны падатак. Згодна з новымі правіламі, падатак выплачваецца толькі з розніцы паміж цаной набыцця і цаной продажу.

Другая прынцыповая змена датычыць акцызаў на іншамаркі, сабраныя ў Расіі. Раней акцызы і ПДВ выплачваліся ў Беларусі і ў беларускіх рублях. Цяпер падаткі будуць закладзеныя ў адпускную цану расійскім бокам. Адпаведна, грошы будуць атрымліваць расіяне, а не беларусы.

Наколькі зменіцца кошт расійскіх аўтамабіляў? Памер акцызаў для легкавікоў дасць выгаду для купца каля $50—100, новы фармат аплаты падаткаў таксама зменіць цану нязначна. Фактычна на розніцу паміж беларускім (20%) і расійскім (18%) ПДВ.

Асобныя імпарцёры могуць змяніць свае лагістычныя ланцужкі і пашырыць увоз аўтамабіляў заходніх брэндаў, сабраных у Расіі. Такой думкі трымаецца гендырэктарка Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі Людміла Шабанава. «Гэтае рашэнне павялічыць колькасць іншамарак расійскай зборкі на беларускім рынку», — мяркуе яна.

Разам з тым, такі рэверанс Расіі з боку Лукашэнкі можа быць адной з умоваў атрымання стабілізацыйнага крэдыту, без якога можа наступіць дэфолт.

**ЯВ**

# На Лукашэнку зноў льецца дождж нафтадаляраў

Аб'ёмы перапрацоўкі нафты ў 2011 годзе маюць дасягнуць рэкорда.

Урад Беларусі ставіць перад беларускімі нафтаперапрацоўчымі заводамі (НПЗ) задачу перапрацаваць у 2011 годзе ўвесь аб'ём расійскай нафты ў рамках паліўнага балансу – 22,68 мільёна тон — і 4 мільёны тон венесуэльскай нафты. Пра гэта заявіў першы віцэ-прэм'ер урада Уладзімір Сямашка. Разам гэта дае амаль 27 мільёнаў тон. Дагэтуль у найлепшыя гады краіна імпартавала 21–22 мільёны.

«Сёння НПЗ загружаныя цалкам, на 100%, і нават больш. Цяпер кіраўніцтва «Белнафтахіма» вырашае, як перапрацаваць нафту», — сказаў Сямашка. Ён прызнаў, што ўмовы пастаўкі нафты з Расіі сёлета крайне выгадныя для Беларусі. Расійскі прэм'ер Пуцін называў лічбу выгады $4,3 мільярда на адной толькі нафце.

Беларусь магла б абысціся і без венесуэльскай сыравіны, прыбытак на перапрацоўцы якой складае ўсяго 6 даляраў за тону, але гэта вярнула б краіну да небяспечнай залежнасці ад аднаго экспарцёра. Наяўнасць венесуэльскай долі дае гарантыі мінімальнай энергетычнай бяспекі.

Затое перагрузка заводаў стварае небяспеку аварый. Абсталяванне, у тым ліку і зношанае, працуе на максімальнай загрузцы.

**Сяргей Гезгала**

# Цырк ад Нацбанка

Статыстыка Пракаповіча: за сакавік рэзервы краіны ў далярах выраслі на $140 мільёнаў.

Нацыянальны банк агучыў лічбы золатавалютных рэзерваў Беларусі на 1 красавіка. Згодна з пададзенай інфармацыяй, рэзервы ў вызначэнні МВФ зменшыліся на $262,3 мільёна і апусціліся да паказчыка $3761,3 мільёна. Асноўнай прычынай зніжэння золатавалютных рэзерваў Нацбанк небеспадстаўна называе высокі попыт на замежную валюту з боку насельніцтва. За мінулы месяц чыстая купля насельніцтвам замежнай валюты (наяўнай і безнаяўнай) склала $768,1 мільёна. Гэта розніца паміж купляй і продажам. Але рэзервы зменшыліся на ўтрая меншую суму.

Яшчэ больш цікавы паказчык рэзерваў у далярах. Паводле падлікаў Нацбанка, на фоне няспыннага валютнага дэфіцыту актывы павялічыліся на $56 мільёнаў і дасягнулі $1337,5 мільёна.

Нагадаем, што літаральна тыдзень таму старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч даводзіў, што яму давялося дастаць з золатавалютных рэзерваў сотні мільёнаў даляраў, каб задаволіць попыт насельніцтва.

**ЯВ**

## Сціслa

• **Афіцыйная дэвальвацыя валютнага кошыка ад пачатку года — 7,6%.** Курсы еўра і расійскага рубля б'юць рэкорды дзень за днём. Па стане на аўторак еўрапейская валюта афіцыйна каштавала 4406,65 беларускага рубля, а расійская — 108,88. Дэвальвацыя гэтых валют з пачатку года дасягнула 10,5—11%.

• **МТС гатовы пакінуць Беларусь.** Віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін у чарговы раз заявіў, што Беларусь хоча прадаць 51% акцый мабільнага аператара за $1 мільярд. Калі ж расійскі МТС, які валодае астатнімі 49% акцый, адмовіцца ад куплі, беларуская доля будзе выстаўлена на таргі. Тым часам расійскі мабільны аператар зрабіў ход канём. МТС заявіў, што ў такім выпадку выставіць на продаж і сваю долю.

• **Самы багаты літовец вядзе перамовы ў Мінску.** Браніслававас Лубіс, маёмасць якога ацэньваецца ў $480 мільёнаў, сустрэўся з прадстаўнікамі канцэрна «Белнафтахім». Літовец прапануе супрацоўніцтва ў сферы лагістыкі і транспартных паслуг. Як варыянт абмяркоўвалася супольнае выкарыстанне тэрмінала ў порце Клайпеды.

• **На аўтазапраўках даражэе газ.** З 14 красавіка больш як на траціну будуць падвышаныя цэны на звадкаваны газ на аўтазапраўках. Ён будзе каштаваць ад 1900 да 2050 рублёў за літр.

• **Цэны на паслугі ЖКГ могуць зноў вырасці.** Урад прапрацоўвае магчымасць чарговага павелічэння тарыфаў на $5–7. Сёлета рост ужо склаў $5.

**ЯВ**

# Новая рэзідэнцыя Лукашэнкі ці турбаза?




Кіраўніцтва справамі прэзідэнта будуе на Браслаўшчыне адпачынковы комплекс.

На мінулым тыдні з’явілася інфармацыя, што на беразе возера Воласа Паўночны пад Браславам будуюць яшчэ адну рэзідэнцыю для Аляксандра Лукашэнкі. Сайт westki.info спаслаўся на словы аднаго з будаўнікоў. Той заявіў, што «каб зрабіць прыстань, былі завезеныя тысячы тон пяску. Рэзідэнцыя будзе аточаная пяццю кіламетрамі агароджы з бярвення, кожны пралёт якой каштуе 1,2 млн рублёў. Там будуць пастаянна працаваць шэсцьдзясят чалавек абслугоўваючага персаналу». Па яго словах, здача аб’екта запланавана на май.

У прэс-службе Адміністрацыі прэзідэнта не сталі каментаваць такую інфармацыю. Спасаліся на адсутнасць начальніка Паўла Лёгкага, які знаходзіцца ў камандзіроўцы. Маўляў, толькі ён можа пацвердзіць альбо аспрэчыць нешта.

Затое ў Браслаўскім райвыканкаме паведамілі, што будаўніцтва вядзе Галоўнае ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. Раённы чыноўнік, праўда, не змог удакладніць, што гэта за аб’ект узводзіцца. Начальнік упраўлення Уладзімір Гаканаў паведаміў пра будаўніцтва турыстычнага комплексу. З пяці дамкоў. Будуюць, каб можна было і «зарабляць валюту, якой нідзе няма». Упэўнены ён, што там і «высокія дэлегацыі» можна будзе прыняць.

Па словах Гаканава, комплекс можа быць завершаны да канца года. Але дакладных тэрмінаў ён не назваў. А што да «чутак», дык чыноўнік прапанаваў любому ахвочаму прыехаць на месца і паглядзець на аб’ект. Маўляў, будоўля адкрытая для наведвання.

Будаўніцтва на беразе возера вядзецца з лета мінулага года. Адзін з жыхароў Браслава паведаміў, што неафіцыйна гавораць пра рэзідэнцыю Лукашэнкі. І нібыта хутка будзе перакрыты пад’езд да возера.



**Возера Волас Паўночны**

знаходзіцца ў лесе за 6,5 км на паўночны ўсход ад Браслава ля вёскі Лявошкі. Належыць да групы Браслаўскіх азёр, уваходзіла ў Міжазёрны ландшафтны заказнік.

У Нацыянальным парку «Браслаўскія азёры», у які ўваходзіць і возера Воласа Паўночны, не сталі тлумачыць, што за будоўля ідзе на беразе возера. Параілі звярнуцца ў Адміністрацыю прэзідэнта. Маўляў, будаўніцтва — дзяржаўная таямніца. І яшчэ папярэдзілі быць «асцярожным з пытаннямі, якія вы задаяце».

Сам Нацпарк падпарадкаваны Кіраўніцтву справаў прэзідэнта. Адна з асноўных задач апошняй структуры — захаванне ўнікальных запаведных месцаў Беларусі, якія маюць нацыянальнае і міжнароднае значэнне.

Яшчэ некалькі гадоў таму побач з возерам Воласа Паўночны забараняліся змяненне натуральнага стану, рух транспарту, выпас жывёлы. Возера Воласа Паўночны ўваходзіла ў Міжазёрны ландшафтны заказнік. Па беларускім заканадаўстве, прэзідэнт мае права сам прымаць рашэнне пра ўвядзенне ці вывядзенне пэўнай тэрыторыі з межаў заказніка. У 2008 годзе статус заказніка ўвогуле знялі. А ўвялі «асаблівыя зоны», у лік якіх возера ўжо не трапіла.

**Сяргей Макарэвіч**

# Сумар запеў

Новы экстравагантны ўчынак старшыні Брэсцкага аблвыканкама. Аўтар сцверджання, што Лукашэнка вышэйшы за Бога, цяпер запісаў музычны дыск.




Кіраўнік Брэстчыны дэбютаваў у музыцы, запісаўшы дыск з песнямі.

«У Канстанціна Андрэевіча — лірычны тэнар і абсалютны слых», — перадае словы спецыялістаў упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама газета «Советская Белоруссія». Менавіта яны ўгаварылі старшыню заспяваць.

Чыноўнік расказаў, што спачатку паўгода ўгаворвалі яго, а калі ён нарэшце пагадзіўся, запісаў дзве песні, праслухаў іх, то зразумеў, «што трэба запісаць больш». Так з’явілася яшчэ восем песень. «Памойму, нядрэнна выйшла», — прызнаўся Сумар.

Запісваўся дыск у суправаджэнні ансамбля народных інструментаў «Сябрына» пад кіраўніцтвам Віктара Дзямянюка на сцэне Тэльмаўскага дома культуры. Прэм’ера прызначаная на пачатак 2012 г.

«Я запісаў для сябе, для сям’і, для дзяцей, унукаў. Пройдуць гады, яны змогуць паслухаць. Кажаце, пусціць у продаж? Паглядзім, як будзе», — кажа Канстанцін Сумар. Наклад дыска пакуль невядомы, але чыноўнік не выключае яго павелічэнне ў дабрачынных мэтах.

Застаецца спадзявацца, што пасля выхаду ў адстаўку кіраўнік вобласці не патрапіць у «чорны спіс» і зможа працягнуць сваю кар’еру на сцэне.

**СП**

# Кадафі больш не доктар?

У спісе ганаровых дактароў Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі яго больш няма.



Ва ўпраўленні міжнароднага супрацоўніцтва БДУІР «НН» адмовіліся каментаваць прычыну знікнення лідара Джамахірыі з ганаровых спісаў. «Вы не першы сёння тэлефануеце», — адзначыла загадчыца ўпраўлення Ганна Цітовіч. Яна сказала, што не разумее, чаму ўсім так цікава, што здарылася з Кадафі. Па яе словах, ёй асабіста больш важны лёс васямнаццаці лівійскіх аспірантаў, якія вучацца ў Беларусі і якімі апякуецца ўпраўленне.

Навіна пра тое, што Кадафі атрымаў ганаровага доктара БДУІР «за значны ўклад у развіццё адукацыі і навукі, а таксама за ўмацаванне супрацы між ВНУ Рэспублікі Беларусь і Вялікай Сацыялістычнай Народнай Лівійскай Арабскай Джамахірыі», з’явілася пасля таго, як у Лівіі мірныя пратэсты пачалі душыць танкамі і авіяцыяй. У байнэце паўжартам пачалі казаць пра БДУІР як пра верагоднае месца працы для Кадафі ў выгнанні.

Пазней з’явілася інфармацыя, што Кадафі застаецца ганаровым доктарам БДУІР, а ягонае фота знялі, бо «на ім ён быў сам на сябе не падобны». Дзіўная матывацыя, калі ўлічыць, якая колькасць фотаздымкаў Кадафі.

Да свайго знікнення з сайта БДУІР Кадафі дзяліў там месца ў ганаровым спісе з прафесарамі нямецкага ўніверсітэта г. Вуперталь Людвігам Ёзэфам Балькам, Волькерам Ронге, Францам Іосіфам Ін дэр Смітэнам, прафесарам Беластоцкага тэхнічнага ўніверсітэта Анатолем Якаўлюком, нобелеўскім лаўрэатам Жарэсам Алфёравым, акадэмікам Акадэміі навук Азербайджана Абасавым Алі Мамед аглы.

**Сямён Печанко**

# Сідорскі з жонкай адпачываў у Чэхіі

Жонка былога прэм’ер-міністра Сяргея Сідорскага расказала, дзе цяпер яе муж і чым займаецца.

Датэлефанавацца Людміле Сідорскай было няпроста. На незнаёмыя нумары, як папярэджвалі людзі з яе асяроддзя, яна не рэагуе, палітычныя тэмы з журналістамі не абмяркоўвае.

Некалькі тыдняў таму журналісты ўжо спрабавалі з ёй звязацца. Аднак жонка экс-кіраўніка ўрада Беларусі была «па-за зонай дзеяння сеткі», што толькі дадало пытанняў. І вось 6 красавіка на іншым канцы дроту пачуўся ветлівы голас Людмілы Сідорскай.

**— Ведаеце, ходзяць розныя чуткі, бо пра Сяргея Сяргеевіча нічога не чуваць. Кажуць, што вы пераехалі ў Германію…**

— Мы нікуды не зніклі, нікуды не пераехалі. Дома. У Мінску.

**— Некалькі тыдняў таму вы працяглы час былі недаступныя. Некуды ўсё-ткі з’язджалі?**

— На тры тыдні ездзілі адпачываць у Чэхію. Не да сяброў. Проста купілі пуцёўку... Вярнуліся паўмесяца таму.

**— Сяргею Сяргеевічу прапаноўвалі нейкую пасаду ў Беларусі ці, можа, паступалі прапановы з-за мяжы? Наогул, ён разглядае цяпер нейкія варыянты працаўладкавання?**



— [Паўза.] Я не магу адказаць на гэтае пытанне. Пра гэта лепш гаварыць з ім... Хоць ад інтэрв’ю ён цяпер устрымліваецца. Магу толькі сказаць, што Сяргей Сяргеевіч пакуль адпачывае, а таксама з задавальненнем займаецца навуковай дзейнасцю. Ён жа доктар тэхнічных навук [у 1976 годзе скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. Спецыяліст у галіне вакуумна-плазмавых тэхналогій, — Рэд.]. Плюс інтэрнэт, кнігі...

**— Вы згадалі інтэрнэт. Ён актыўны карыстальнік?**

— У асноўным вывучае тэхнічныя навінкі і навуковыя выданні. «Даганяе» тое, што раней не паспяваў праз сваю занятасць. Плюс, вядома, навіны. У першую чаргу эканамічнай тэматыкі. Больш за ўсё яго хвалюе эканамічная сітуацыя ў краіне.

**— Мусіць, у курсе, што многія суайчыннікі пазбаўляюцца ад беларускага рубля, скупляючы валюту. У чым ваша сям’я захоўвае зберажэнні?**

— [Паўза.] У нас няма нейкага «склада». У нас дарослыя дзеці, унукі... Яны жывуць асобна. Мы ўдваіх. Вельмі доўга жылі ў крэдыт. Так што ніякіх зберажэнняў у нас няма.

**— Але вы, напэўна, чулі прагнозы, якія ваш муж робіць з нагоды нашай эканамічнай будучыні…**

— [Паўза.] Людзям, якія ў яго гэтым цікавяцца, ён адказвае: «Я веру, што ўсё будзе добра».

**«Салідарнасць»**

# Пачобута спрабуюць зламаць


Юлія Дарашкевіч

**На журналіста Андрэя Пачобута завялі яшчэ адну крымінальную справу. Ён утрымліваецца ў СІЗА.**

6 красавіка на выездзе з Гродна быў затрыманы журналіст Андрэй Пачобут. Ён накіроўваўся ў Мінск на тэлемост прадстаўніцтва Еўракамісіі з дэлегацыяй Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю. На той момант журналіст быў у статусе падазраванага па крымінальнай справе паводле ч.1 арт. 368 КК («Абраза прэзідэнта РБ»). Паводле абвінаваўцаў, Пачобут абражаў Лукашэнку сваімі артыкуламі на старонках польскай Gazety Wyborczej, сайта «Беларускі партызан» і допісамі ва ўласным блогу poczobut.livejournal.com цягам 2010—2011 гг.

Журналіст знаходзіўся пад распіскай аб нявыездзе. Ягоны намер выехаць з Гродна следчыя расцанілі як перашкоду правядзенню следчых дзеяннаў у рамках распачатай крымінальнай справы. У той жа дзень следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсеній Нікольскі завёў на журналіста яшчэ адну справу, гэтым разам паводле арт. 367 КК («Паклёп на прэзідэнта РБ»). Праз два дні ён наведаў Пачобута ў ізалятары, дзе прад'явіў яму абвінавачанне па адной крымінальнай справе і паведаміў пра завядзенне новай. З таго моманту Андрэй стаў абвінавачаным, а не падазраваным, а тэрмін затрымання падоўжылі з 3 сутак да 2 месяцаў.

Калегі адрэагавалі на новую справу супраць Пачобута акцыямі салідарнасці. Фотакарэспандэнт «НН» Юлія Дарашкевіч змясціла ў сваім блогу допіс, у якім заявіла, што падпісваецца пад кожным «паклёпніцкім» артыкулам Андрэя і тым самым сведчыць гатоўнасць раздзяліць з ім адказнасць. Ініцыятыву падхапілі не толькі журналісты, але і простыя блогеры. Пазней журналісты пачалі збор подпісаў пад хадайніцтвам аб змене меры стрымання Пачобуту.

**Сямён Печанко**

**Што пагражае Пачобуту**

Арт. 368 ч. 1 прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 2 гадоў; арт. 367 ч. 1 — да 4 гадоў. Раней за абразу кіраўніка краіны былі асуджаныя журналісты Мікола Маркевіч, Павел Мажэйка, Віктар Івашкевіч, палітык Андрэй Клімаў, прадпрымальнікі Валер Леванеўскі і Аляксандр Васільеў, праваабаронца Кацярына Садоўская.

## Павел Мажэйка: Паляк Андрэй Пачобут выпівае да дна беларускую чашу

«Пачобут мог проста чакаць суда, сядзець у Гродна, спадзеючыся на спрыяльную палітычную кан'юнктуру, на чарговыя кулуарныя дамовы паміж Варшавай і Мінскам, якіх за апошнія гады было багата. І, верагодна, яго б вызвалілі, як было неаднойчы.Пачобут усведамляе, што ён — лідар польскай меншасці ў Беларусі — быў і ёсць аб'ектам гэтых кулуарных дамоваў, — адгукнуўся на разгортванне справы Пачобута ягоны зямляк, журналіст Павел Мажэйка, што адбыў «хімію» за «абразу прэзідэнта». — І сёння, з прычыны таго, што за ім Варшава, яго працэс можа быць больш гучным, чым справы шмат якіх іншых палітычных зняволеных. Але Пачобут супраць гандлю галовамі. Бо калі афіцыйная Варшава «выкупіць» яго, значыць «прадасць» нейкага іншага. Паляк Андрэй Пачобут выпівае да дна беларускую чашу. Пачобут выступіў супраць паўмер: хочаце судзіць, судзіце, гэта ваш закон і вашая судовая сістэма. Хочаце ламаць — ламайце, а вось гэта яшчэ паглядзім хто каго. Зброя Пачобута — гэта гістарычная праўда і чалавечая годнасць».

# Будзімір: на фоне трагедыі ў метро галадоўка незаўважная

**Блогер-галадоўшчык напісаў ліст у суд, дзе папрасіў пры разглядзе касацыйнай скаргі на прысуд Ліхавіду праявіць мудрасць і міласэрнасць.**

На 13-ы дзень галадоўкі Дзмітрый Галко даслаў ліст старшыні Мінскага гарадскога суда Валерыю Пуцілу. Менавіта тут будзе разгледжаная касацыйная скарга на прысуд Мікіту Ліхавіду, вызвалення якога і дабіваецца блогер. «Спадар старшыня! Знаходзячыся ў цвярозым розуме і цвёрдай памяці, 30 сакавіка гэтага года я абвясціў бестэрміновую галадоўку з мэтай прыцягнення ўвагі да лёсу Мікіты Ліхавіда, асуджанага судом Партызанскага раёна горада Мінска да 3,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму па справе аб «масавых беспарадках» 19 снежня 2010 г., — напісаў Галко суддзі Пуцілу. — Пайсці на гэты радыкальны крок мяне прымусіла перакананасць у тым, што падобнае пакаранне абуральна не адпавядае ступені віны і цяжару зробленага, з'яўляецца палітычна матываваным і спрыяе далейшаму нагнятанню канфлікту ў грамадстве.

Я прашу пры разглядзе касацыйнай скаргі на прысуд Мікіту Ліхавіду праявіць мудрасць і міласэрнасць. Гэты малады чалавек не здзейсняў гвалту над асобай, не з'яўляецца грамадска небяспечным, акрамя таго, праве́ў за кратамі ўжо 3,5 месяца. Яго аднагодкі, грамадзяне РФ Іван Гапон і Арцём Брэус, якія праходзілі па той жа справе з тымі ж абвінавачваннямі і падобнай доказнай базай, былі вызваленыя з-пад варты. І цалкам справядліва. Не хацелася б думаць, што правы на справядлівы і гуманны суд у Беларусі даступна толькі ўладальнікам расійскіх пашпартоў. Прашу прыкласці гэтае заяву да матэрыялаў справы».

За час галадоўкі, піша Будзімір у сваім дзённіку, да яго акцыі таемна далучылася жонка («ледзь адгаварыў»). Яго бацькі паступова змянілі стаўленне да ўчынку сына.

12 красавіка Дзміры паведаміў «НН», што адчувае сябе адносна нармальна, вялікіх праблем са здароўем не мае. Ён расказаў, што трагедыя ў метро прымусіла яго сур'ёзна задумацца над тым, ці працягваць далей галадоўку. «Буду трымаць галадоўку яшчэ колькі дзён, але трэба падумаць. Бо на гэтым фоне яна будзе незаўважная».

**СП**

КРЫМІНАЛ

# ЦУМ абрабавалі два маладзечанцы

**Міліцыя затрымала двух падазраваных у рабаванні Цэнтральнага ўніверсальнага магазіна, што адбылося ў ноч з 2 на 3 красавіка.**

У затрыманых канфіскавана больш як тры тысячы ювелірных вырабаў на суму звыш 600 мільёнаў рублёў.

Спачатку позна вечарам 3 красавіка ў Маладзечне быў затрыманы 26-гадовы раней судзімы мясцовы жыхар. Ён не спрабаваў адхрысціцца ад крадзяжу і, апісваючы падрабязнасці, паведаміў аб учыненым злачынстве. Аднак стаў выкручвацца, калі пытанні тычыліся буйной партыі выкрадзеных каштоўнасцяў.

Затым міліцыянеры выйшлі на сябра затрыманага — ахоўніка аднаго з ігравых устаноў у Маладзечне.

Менавіта ў яго на дачы 4 красавіка была знойдзеная схованка з часткай выкрадзенага.

Пра астатнія дзве схованкі гаспадар дачы паведаміў ужо сам з надзеяй на змякчэнне пакарання.

**Паводле БелаПАН**

### Здарэнні сцісла

• **Пенсіянерку падманулі ля абменніка: далі 7 даляраў замест 300.** 74-гадовая жанчына прыйшла да аднаго з пунктаў абмену валют, дзе хацела набыць даляры. Да яе падышла невядомая жанчына, на выгляд 40—45 гадоў, прапанавала валюту і паказала 300 даляраў ЗША. Пакуль пенсіянерка даставала з сумкі 936 тыс. рублёў, махлярка замяніла купюры. Скручанымі яна аддала іх жанчыне, узяўшы ў яе рублі, пасля чаго знікла. Пенсіянерка вырашыла праверыць у абменным пункце, ці не фальшывыя купюры, разгарнула іх і выявіла, што там усяго сем даляраў ЗША. Вядзецца пошук махляркі.

• **Псіхічна хворы мінчук спрабаваў сябе спаліць.** 43-гадовы жыхар Мінска, які стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры, абліў сябе бензінам і падпаліў. З тэрмічнымі апёкамі ўсяго цела ён трапіў у бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі.

• **Рыэлтарка разводзіла кліентаў на грошы.** Рыэлтарка аднаго са сталічных агенцтваў нерухомасці махлярскім шляхам завалодвала грашыма кліентаў. Калі людзі звярталіся ў агенцтва з намерам набыць новую жылплошчу, жанчына патрабавала ў іх перадаплату. Кліенты пакідалі махлярцы патрэбную суму, але кватэры так і не атрымлівалі. Такім чынам рыэлтарка «зарабіла» звыш 100 млн рублёў.

• **Злодзей запалохваў дзяцей і трапляў у кватэры.** 34-гадовы раней судзімы мінчанін прыглядаўся да дзяцей 10–13 гадоў, што гулялі ля школы, пасля падыходзіў да аднаго з іх і выказваў прэтэнзіі наконт нібыта прычыненага яму ўрону. Бывала, ён вінавапіў дзіця ў пашкоджанні



яго машыны ці паштовай скрыні і патрабаваў адвесці яго дамоў для сустрэчы з бацькамі. «Пацярпелы» высвятляў, ці сапраўды бацькі ў гэты момант дома. Калі дарослыя адсутнічалі, з дапамогай маральнага ціску на дзіця ён трапляў у жытло і выкрадаў грошы і каштоўныя рэчы. Такіх выпадкаў у горадзе з пачатку сакавіка было шэсць. Адзін з школьнікаў, якога злодзей «апрацоўваў», здолеў вырвацца і патэлефанаваў бацькам. Тыя паведамілі ў міліцыю. Злачынца затрымалі праз некалькі хвілін.

**СМ**

# Мастак і яго нашчадак

Ён нарадзіўся мастаком, як і яго знакаміты продак. І горад для жыцця яны выбіралі аднолькавы. Толькі адлегласць паміж імі склала шэсцьдзясят гадоў: **Нікадзім Сілівановіч** памёр у 1919-м, а **Віталь Курдэка** нарадзіўся ў 1985-м.

## Мазаіст, жывапісец, фатограф

Віталь жыве ў Санкт-Пецярбургу. Ужо шэсць гадоў. У Беларусі бывае штогод і заўжды наведвае в. Цынцавічы на Вілейшчыне — месца, дзе нарадзіўся яго сваяк — мастак Нікадзім Сілівановіч, дзе пахаваны яго родныя.

Сілівановіч для Беларусі — мастак адной карціны: хто не бачыў яго «Салдата з хлопчыкам»? Вучыўся ён у Санкт-Пецярбургу, тагачаснай культурнай сталіцы усёй Расійскай імперыі, дзе і «зрабіў» сабе імя. Хаця і ў Расіі ён сёння вядомы хіба ў коле адмыслоўцаў.

«За ўвесь час пошукаў у Санкт-Пецярбургу, кантактаў з персаналам Ісакіеўскага сабора, храма Спаса-на-крыві (дзе знаходзяцца мазаікі мастака) мне стала зразумела, што аб ім ведаюць вельмі мала, — адзначае Віталь Курдэка, які шукае і даследуе спадчыну Сілівановіча. — Мне адна з экскурсаводаў Ісакіеўскага сабора прапанавала для іх супрацоўнікаў пра Сілівановіча і яго мазаічныя вобразы прачытаць лекцыю».

Затое, па словах Віталя, Сілівановіча сваім лічаць літоўцы. Яно і зразумела, ажаніўся з літоўкай, працяглы час жыў у Вільні (у 1864—1866 меў там майстэрню, у якой выконваў замовы для касцёлаў і пісаў партрэты), Бірштонасе (у 1883—1885 валодаў фотаатэлье), Прэнаі. Ды і сам мастак пісаў сябрам, што «Віленскі край, Бірштонас — мая радзіма як чалавека, а Пецярбург — радзіма як мастака і паўнавартаснага чалавека». Хаця шэраг карцін напісаны ім менавіта на беларускім матэрыяле.

У Бірштонасе ёсць экскурсія пад назвай «Па слядах Нікадзіма Сілівановіча» па месцах, дзе ён жыў, адпачываў, па касцёлах, у якіх захаваліся яго абразы. У Літве і большасць карцін Сілівановіча знаходзіцца. У Беларусі ж адзінае яго палатно «Салдат з хлопчыкам» захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі. Некалькі гадоў таму ў дадатак у адным з касцёлаў Вілейшчыны адшукалі і абраз, напісаны Сілівановічам. Яго месцазнаходжанне не афішуецца, бо твор мастацтва можа знікнуць, як і сотні іншых царкоўных артэфактаў.

## Пецярбург — горад маладосці

Нікадзім Сілівановіч даводзіцца Віталю Курдэку далёкім сваяком. Прабабка Віталя Юэфа Курдэка (у дзявоцтве Сілівановіч) была пляменніцай мастака. Жыла ў в. Цынцавічы. Пра родзіча ж маладому чалавеку сказаў дзед, калі даведаўся, што ўнук хоча быць мастаком. Праўда, падрабязнасцяў надта не ведаў. Але тое-сёе распавёў. Сілівановіч у родную вёску, напрыклад, прывёз і першы фабрычны ткацкі станок. З самой сталіцы — Санкт-Пецярбурга. Факт сваяцтва з мастаком і эпізод з ткацкім станкам сталі для Віталя асноўным штуршком, каб заняцца пошукамі інфармацыі пра Нікадзіма.

«У 2001 годзе, калі я быў першакурснікам Віцебскага каледжа мастацтваў, я атрымаў заданне напісаць працу па тэме «Ткацтва». І вырашыў узгадаць таксама пра Сілівановіча, ткацкі станок і нават вырашыў прывезці ручнік, сатканы прабабкай. Але выкладчык не паверыў, што наша сям'я мае адносіны да Сілівановіча. Я ж тады паабяцаў даказаць наша сваяцтва». Пасля таго выпадку Віталь паехаў у в. Цынцавічы, дзе разам з дзедам склаў свой радавод. Ды і ў Вілейскім музеі дапамаглі з матэрыяламі. «І ў верасні я прадставіў усю сабраную інфармацыю пра мастака і, як зразумееў, шакаваў выкладчыкаў. Ужо праз месяц адкрылі дзве мае персанальныя выставы, адна з якіх была прысвечана Нікадзіму Сілівановічу. На той момант я яшчэ не падазраваў, колькі інфармацыі яшчэ адшукаю».

А ў жніўні 2005 года, зарабіўшы на білет, Віталь з сябрам з'ехаў у Піцер. Без сродкаў на існаванне. «Добра памятаю, як, прыехаўшы, не адчуваў ніякага дыскамфорту. Я адразу зразумеў, што застануся надоўга». Як некалі малады Сілівановіч пакідаў Вілейшчыну, каб выбіцца ў людзі ў расійскай сталіцы, так і яго нашчадак праз шмат гадоў паехаў у Пецярбург.

Калі Віталь з'язджаў у Расію, не ўяўляў, чым будзе там займацца. Але дакладана ведаў, што ў горадзе Сілівановіча абавязкова зоймецца пошукамі месцаў, звязаных з мастаком.



Віталь Курдэка з жонкай Сашай.

## Таямніцы Сілівановіча

Віталь Курдэка працуе ў кампаніі, якая прадае інфармацыйныя тэхналогіі. А вольны час бавіць у Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным архіве, дзе шукае інфармацыю пра знакамітага продка. І трэба адзначыць, ёсць поспех у яго справе.

«Усё аказалася на паверхні. Я проста стаў тым, хто знайшоў магчымасць сабраць інфармацыю. А пражыванне ў Санкт-Пецярбургу мне дало перавагу ў пошуках», — малады чалавек абышоў усе храмы горада, пабудаваныя ў канцы XIX стагоддзя. Да гэтага шырока было вядома пра мазаічныя абразы Сілівановіча ў Ісакіеўскім саборы. Але не пра ўсе. Найперш гэта «Тайная вячэра» (Сілівановіч быў адным са стваральнікаў мазаікі). Па архіўных дакументах Віталь адшукаў інфармацыю аб удзеле Сілівановіча ў стварэнні мазаікі «Нясенне крыжа». Але больш загадкавай стала мазаіка «Збаўца ў славе», зробленая на магіле князёў Пажарскіх, якая знаходзіцца ва Уладзіміра-Суздальскім музеі-запаведніку. У музеі аб гэтай працы нічога не змаглі распавесці Віталю. І толькі архіўныя матэрыялы адкрылі яшчэ адну працу мастака. Мазаічны абраз «Уваскрасенне Хрыста» Сілівановіча Віталь адшукаў у храме-музеі Спаса-на-крыві.

Таямніцы Нікадзіма Сілівановіча — дакладная дата яго смерці і месца пахавання. У шэрагу даведнікаў дата смерці падаецца пад знакам пытальніка: 1918 альбо 1919. На памятным знаку на радзіме мастака ў Цынцавічах — 1918. Але Віталь Курдэка прыводзіць цытату з біяграфіі Нікадзіма, напісаную яго сынам Іосіфам. «Падчас сусветнай вайны з'ехаў у Пецярбург, а пасля вайны не даехаў да Прэная — у 1919 годзе памёр у сваёй роднай Вілейцы». У некаторых крыніцах прыводзіцца і канкрэтная дата — 21 мая. Хаця дакументаў, якія б развеялі ўсе сумненні, няма. «Ёсць меркаванне, што ён пахаваны на могілках у вёсцы Цынцавічы, — кажа Віталь. — Там, дзе пахаваны яго бацька з сям'ёй. Калі Нікадзіма хавалі сваякі-сяляне, якія не маглі паставіць годны помнік мастаку, на яго магіле мог паўстаць звычайны камень без надпісаў. Але праверыць гэта немагчыма. Пакуль гэта застаецца таямніцай, як і месца пахавання яго жонкі».



Сілівановіч. Аўтапартрэт. 1861 г.

## На шляху да манаграфіі

Ці засталіся ў Сілівановіча наўпростыя нашчадкі? «Нашчадкі ёсць, мне здаецца. Але яны нават не падазраюць, што сярод іх продкаў быў знакаміты мастак. Жывуць яшчэ ў Літве людзі, якія валодаюць і фотаархівам Нікадзіма і нават яго ўласнымі рэчамі», — кажа Віталь.

Згодна з генеалагічным дрэвам Сілівановічаў, складзеным Анатолем Рогачам, у мастака былі чатыры сыны. Стэфан скончыў аддзяленне жывапісу Імператарскай акадэміі мастацтваў. Займаўся жывапісам, а затым і фатаздымкамі. Казімір — выпускнік медыцынскага факультэта Варшаўскай ваеннамедыцынскай вучэльні, урач. Станіслаў стаў хімікам. Іосіф большую частку жыцця правёў з маці — у яго была паралізаваная рука. Пасля смерці бацькі менавіта Іосіф жыў у яго доме ў Бірштонасе, займаўся садаводствам. Але спачатку Першая сусветная, затым Другая прайшліся ўраганам. Пасля апошняй вайны губляецца след Сілівановічаў. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што нашчадкі мастака выехалі. Вядома, што ў ЗША жыў ураджэнец вілейскіх Цынцавіч Аляксандр (Алекс) Сільвановіч (1937—2007). Эміграваўшы з бацькамі ў 1944 годзе спачатку ў Германію, а затым у ЗША, Аляксандр стаў актыўным удзельнікам беларускага руху на эміграцыі. Захапляўся фота. І падчас свайго прыезду ў 1994 годзе ў Вілейку, дзе праходзіла яго фотавыстава, казаў пра мастака ў сваім родзе, аб якім згадвалі бацькі. А розніца ў адну літару ў прозвішчы — магчымая памылка пры рэгістрацыі.

Вынікам сваіх пошукаў Віталь Курдэка бачыць трохмоўную кнігу (па-беларуску, па-расійску, па-літоўску). «У планах — напісаць манаграфію пра мастака. А маляванне... гэта цяпер толькі занятак для душы», — падсумоўвае малады чалавек.

**Сяргей Макарэвіч**

**Віталь Курдэка**

нар. у 1985 у Вілейцы. З чатырнаццаці гадоў займаўся маляваннем. Выпускнік Віцебскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў. З 2005 жыве ў Санкт-Пецярбургу. Працуе ў кампаніі, якая прадае інфармацыйныя тэхналогіі. Жанаты.

**Нікадзім Сілівановіч**

(1834—1919) нар. у в. Цынцавічы Вілейскага раёна. Двойчы скончыў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў па класах жывапісу і мазаікі. Пісаў абразы для праваслаўных і каталіцкіх храмаў. Аляксандр Брулоў запрасіў Сілівановіча ўзяць удзел у стварэнні мазаікі «Тайная вячэра» ў галоўным іканастасе Ісакіеўскага сабора ў Санкт-Пецярбургу. Большасць карцін мастака захоўваецца ў Літве. У Беларусі толькі дзве яго працы: карціны «Салдат з хлопчыкам» (Нацыянальны мастацкі музей) і абраз «Прывід Св. Антонія Падуанскага» (адзін з касцёлаў на Вілейшчыне).

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**17 і 18 красавіка ў «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт Neuro Dubel. **Пачатак а 19-й.**

### Тузін Гітоў

**25 красавіка ў «Графіці»** — вечарына сайта «Тузін Гітоў». **Пачатак а 19-й.**

### Трыб'ют Nirvana

**16 красавіка ў клубе «Рэактар» (вул. Харужай, 27)** — трыб'ют гурта Nirvana і прэзентацыя дыска кавераў «Беларускі глобус». Удзельнічаюць: «Мутнае вока», Tlusta Lusta, Partyzone, Re1ikt. **Пачатак а 18-й.** Даведкі па т.: (029) 649-08-88. Квіткі ад 20 да 30 тысячаў.

### «Зарціпо» і рэвалюцыя 1917-га

**17 красавіка ў кавярні «Добрыя мыслі»** зайграе ветэран беларускага авангарднага року Андрэй Іваноў і яго гурт «Зарціпо», які цяпер з яго ж аднаго і складаецца. Канцэрт будзе суправаджацца паказам нямога чорна-белага фільма «Кастрычнік» Сяргея Эйзенштэйна (1927). Музычны сюжэт будзе адпавядаць «карцінцы» расійскай рэвалюцыі. **Пачатак а 19-й.**

### INTOUCH!

**22 красавіка а 19-й у галерэі сучаснага мастацтва «Ў»** — першы дзень фестывалю INTOUCH!. Бяруць удзел Form und Zeit (Германія, Іспанія), Hatori yumi (Італія), імправізацыйны аркестр (Князь Мышкін, Уладзіслаў Бубен, Aortha)…

## ІМПРЭЗЫ



### «Дуэт імя Чэхава»

**17 красавіка ў бары «Каёт» (пр. Незалежнасці, 117а)** упершыню ў Беларусі выступяць украінскія комікі Андрэй Малочны і Антон Лірнік. Яны рэзідэнты Comedy Club, аднак жартаў «ніжэй пояса» ў іх арсенале амаль няма. Іх «Дуэт імя Чэхава» зарабіў славу сваімі яскравымі палітычнымі пародыямі ў даянуковічаўскія часы ва Украіне. Праўда, у Беларусь Малочны і Лірнік вязуць «сацыялку». Квіткі: ад 120 да 210 тысяч.

### Невядомая Беларусь

**22 красавіка на сядзібе ТБМ у 17.30** пачнецца вечарына «Невядомая Беларусь», падчас якой адбудзецца прэзентацыя кніг і паштовак мастака Юрася Малаша «Невядомая Беларусь», «Стварэнне свету», «Страна негодяев»…

### Месяц польскай літаратуры

**У цэнтры Мінска ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** цэлы красавік — вялікая паліца з польскімі кнігамі, перакладнымі і ў арыгінале; стэнд з польскімі газетамі; сустрэчы з польскімі пісьменнікамі.

**13 красавіка** — сустрэча з публіцыстам, пісьменнікам, даследчыкам літаратуры і еўрапейскіх культурных сувязяў Міхалам Ягелам і прэзентацыя ягонай кнігі Narody i narodowo ci. **Пачатак а 19-й.**

**20 красавіка** — творчая лекцыя з паэтам і польскім перакладчыкам Набокава Лешэкам Энгелькінгам. **Пачатак а 19-й.** Вядучы — Андрэй Хадановіч.

### Дзень нараджэння Музея Багдановіча

**14 красавіка а 16-й Літаратурны музей Максіма Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а)** святкуе дзень нараджэння. У імпрэзе бяруць удзел пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Віктар Шніп, Аксана Спрынчан, аўтар мастацкай канцэпцыі музея, Рыгор Сітніца, гурт «Гарынь».

## ВЫСТАВЫ



### Успамінаем 1980-я

Галерэя TUT.BY адкрыла новую фотавыставу Сяргея Брушко «Аскепкі з дзённіка».

Сяргей Брушко вядомы як фатограф-дакументаліст. Многія знаўцы фотамастацтва ставяць яго ў адзін шэраг з вялікім майстрам рэпартажнага жанру Анры Карцье-Брэсонам. Але яго далікатныя і сапраўды лірычныя фотаработы вядомыя толькі адзінкам (большую частку работ, прадстаўленых у экспазіцыі, ніхто не бачыў). Рэдкі майстра ўмее пераключацца з цвёрдага драматычнага рэалізму да арт-фатаграфіі, пры гэтым рабіць абодва кірункі аднолькава прафесійна. Сяргей Брушко рабіў гэта выдатна.

Выстава «Аскепкі з дзённіка» не закранае вострую сацыяльную і палітычную праблематыку, у якой быў моцны Сяргей Брушко. Гэта іншы бок майстра — яго погляд на штодзённасць беларускага жыцця 1980-х гадоў; на будзённасці, каштоўнасць і прыгажосць якіх часцяком застаюцца нікім не заўважанымі.

Выставу можна паглядзець да 6 мая 2011 года па адрасе: вул. Харужай, 1а, 6 паверх. Рэжым працы: панядзелак — пятніца, 9.00—18.00. Уваход вольны.

### Ван Дэйк і яго эпоха

**13 красавіка а 17-й у Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** пачынаецца выстава «Ван Дэйк і яго эпоха» са збору Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Выстава дэманструе творы графікі і жывапісу XVII—XVIII стст., аб'яднаныя жанрам партрэта.

Асноўную частку экспазіцыі складаюць гравюры Антоніса ван Дэйка (1599–1641) — знакамітага фламандскага мастака XVII ст., вучня і паплечніка Рубенса. Творы гэтага фламандскага майстра таксама ёсць на выставе.

### Дысідэнты, поп-культура, сэксуальная рэвалюцыя

**Да 21 красавіка ў галерэі «Універсітэт культуры» (Палац Рэспублікі)** працуе выстава скандальнага савецкага фатографа Аляксандра Барадуліна «Рэтраспектыва». На выставе дэманструюцца фотаздымкі часоў распаду СССР, дысідэнты, сэксуальная рэвалюцыя на Захадзе, жыццё еўрапейскіх сталіц і культавыя асобы моды і спорту.

Барадулін быў першым савецкім фатографам, які паказаў, што ў СССР сэкс ёсць. Яго праект «Рускія дзяўчыны» на 30% падняў продажы часопіса Playboy, і да сёння гэты выпуск лічыцца самым паспяховым за ўсю гісторыю гэтага выдання. Барадулін першым з савецкіх фотамастакоў супрацоўнічаў з такімі асобамі, як Эндзі Уорхал, Арнольд Шварцэнегер, Фрэдзі Мэрк'юры. Зараз Аляксандр Барадулін знаходзіцца ў Мінску, дзе плануе ажыцявіць некалькі арт-праектаў. Адным з іх стане выстава, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне. На ёй будуць дэманстравацца архіўныя здымкі часоў вайны бацькі Барадуліна Льва — класіка савецкай фатаграфіі.

### Аўтарэтра

**23 і 24 красавіка ў Гістарычным музеі** ажыве дворык 30—50-х гадоў мінулага стагоддзя: гульні, танцы, музыка, фатаграфаванне. Дэгустацыя кашы, бліны і рэтра-аўтамабілі. Тэатры старадаўніх танцаў «Дэ-грыза» і «Гістрыён» прадставяць тэатралізаваную прэзентацыю танцаў 30-х гадоў, развучаць з наведвальнікамі асноўныя фігуры танга, факстрота, вальса, штэрнпολькі і танцы заходнебеларускіх мястэчак 30-х гадоў. Канцэрт рэтрамузыкі пройдзе ў выкананні музычнага калектыву этнічнай музыкі народаў Еўропы «Кейлі-кёл». Сябры таварыства «Наша перамога» раскажуць аб прадстаўленых рэтра-аўтамабілях.

### Дыназаўры ў натуральную велічыню

**У мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (вул. Гікалы, 4)** працуе выстава «Парк Юрскага перыяду», на якой прадстаўленыя аўтарскія працы беларускага мастака Уладзіміра Найбіча. Дыназаўры зробленыя ў натуральную велічыню.

### Выстава памяці міністра БНР

**У Літаратурным музеі Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а)** да 22 красавіка працуе выстава «Чалавек — крыніца сілы», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Аркадзя Смоліча — навукоўца і палітыка, аўтара першай «Геаграфіі Беларусі» і сябра Рады БНР.

### Парцаляна для каралёў

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20)** да 10 мая працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII–XIX стст.



## ТЭАТРЫ

**13 красавіка**

**Оперы і балета** — «Хаваншчына»

**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

**14 красавіка**

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»

**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

**Оперы і балета** — «Папялушка»

**15 красавіка**

**Юнага гледача** — «Пан міністр»

**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

**Оперы і балета** — «Іаланта»

**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»

**16 красавіка**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»

**Оперы і балета** — «Сільфіда»

**17 красавіка**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»

**Лялек** — «Марозка»

**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

**19 красавіка**

**Оперы і балета** — «Набука»

**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

**20 красавіка**

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

**Купалаўскі** — «Вечар»

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

**21 красавіка**

**Лялек** — «Сіняя птушка»

**Оперы і балета** — «Рыгалета»

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

**22 красавіка**

**Лялек** — «Драй швэстэрн»

**Оперы і балета** — «Баядэрка»

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**23 красавіка**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**Беларускай драматургіі** — «Маленькі Мук»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»

**24 красавіка**

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

**Беларускай драматургіі** — «Офіс»




## КІНО

### Першасны код

Source Code

ЗША — Францыя, 2011, каляровы, 93 хв.

Рэжысёр: Дункан Джонз

Жанр: Фантастычны трымценнік

Адзнака: 7 (з 10)

Амерыканскі пілот Колтэр апрытомнівае ў целе пасажыра электрычкі, што будзе падарваная праз восем хвілінаў. За гэты час Колтэр мусіць знайсці тэрарыста — інакш зноў атрымае чужое аблічча.

Карціна Дункана Джонза — шалёны трымценнік, што нясецца без тармазоў. Рэжысёр дзёрзка ставіць пытанне пра чалавечую тоеснасць.

Дэтэктыўная інтрыга «Дня сурка», сонны «Пачатак», віртуальная «Матрыца», зубадрабільныя баевікі і каханне, выратаванае ў апошнюю хвілю, — усё гэта ёсць у фільме Джонза Дункана.

Карціна парадаксальная. Адныя ўбачаць фантастычны баявік з няўцямнай развязкай. Другіх стужка зачэпіць нечаканымі псіхалагічнымі дэталямі і раптоўнай глыбінёй, што хаваецца за галівудскім маскарадам.

**Андрэй Расінскі**



## Беларускія танцы шточацвер

Шточацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка» адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.



# «Ляпіс», Моцарт і шансон

**Дзіўныя тэндэнцыі ў рэйтынгах продажаў у мінскіх дыскарнях.**

«Музыка на кампакт-дысках аджыла сваю эпоху» — колькі разоў за апошнія пару гадоў даводзілася чуць гэтую фразу. Ну, скажам шчыра, дзе як.

Купляць песні The Beatles па даляры за штуку мы відавочна не збіраемся, а інтэрнэт, дзе ўсё гэта можна спампаваць, ёсць яшчэ далёка не ва ўсіх. Таму дыскі, і нават ліцэнзійныя, прадаюцца нядрэнна.

«Наша Ніва» высветліла, якую музыку беларусы гатовыя купляць на кампактах.




### Моцарт на топе

Прадаўцы здзіўляюцца, але класіка ідзе вельмі добра. Асабліва Моцарт — продажы Моцарта выглядаюць лепш, чым па сучаснай замежнай музыцы. Нездарма музыкаведы называюць яго геніем поп-музыкі. Ягоныя мелодыі дагэтуль трымаюцца ў спісах найпапулярнейшых рынгтонаў для мабільных тэлефонаў. У свой час музыка Моцарта выконвала тую ж ролю, якая цяпер належыць лідарам продажаў часопіса Billboard. І вось што характэрна: прайшло сорак гадоў і, напрыклад, Ніла Даймандa памятаюць толькі знаўцы і аматары, а Моцарт папулярнасці не страціў і набывае ўсё новых і новых прыхільнікаў — геній ён геній і ёсць.

Разам з Моцартам добра прадаюцца Шапэн і Бетховен, а таксама Вівальдзі. Больш складаная для ўспрымання акадэмічная музыка — кшталту Стравінскага і Рахманінава — ад Моцарта адстае, а пра кампазітараў кшталту Джона Кейджа сціпла прамаўчым.

### Купляюць беларускае

Беларускія выканаўцы — у топе. Нягледзячы на тое, што «Ляпіс Трубяцкой» выкладвае свае альбомы ў вольны доступ у інтэрнэце, попыт на «Вясёлыя карцінкі» (іх апошні альбом) — стабільна высокі. Добра прадаюцца і папярэднія — уся антыглабалісцкая трылогія. Трымаюцца ў топе і «ДзеціДзяцей» з беларускамоўным альбомам «Рух» — прычым абыходзяць па папулярнасці навінкі. Добра прадаецца новы «J: Морс» — альбом «Электричество» яшчэ раз даказаў, што цягацца з «Ляпісам» па папулярнасці могуць толькі яны, асабліва на фоне таго, што большасць «старой гвардыі» выпускае альбомы далёка не кожны год.

«Нейра Дзюбель» таксама ўваходзіць у чацвёрку лідараў з альбомам «Афтары праўды», што пры ўсеагульнай любові да калектыву выглядае абсалютна лагічным, адзінае што слухаць Кулінковіча і кампанію пажадана на сцэне.

### Расія — царства шансону

Самыя прадказальныя вынікі — хіты продажаў расійскіх выканаўцаў. Тут лідараў трое, і ў бліжэйшы час нішто не зменіць гэтую сітуацыю. Алена Ваенга, Стас Міхайлаў і Грыгорый Лепс. Калі апошні трошкі здаў свае пазіцыі, то Ваенга з Міхайлавым ідуць, што называецца, «нос да носа». Проста шкада, што букмекеры не бяруць стаўкі на папулярнасць таго ці іншага музыканта: сачыць як Ваенга і Міхайлаў спаборнічаюць у продажах, ратацыях і эфірах — гэта магло б зацікавіць азартных людзей, нават тых, хто музыкай у прынцыпе не цікавіцца. Іх творчасць займае цэлыя паліцы дыскарняў.

Усё ж такі жанр «рускага шансону» (хай і той, што называецца з «людскім тварам») застаецца асноўным на адной шостай частцы сушы. Ну, прынамсі, не гурт «Бутырка», што ўжо радасна. Асобна прадаўцы дыскарняў кажуць пра вялікую папулярнасць супольнага праекта Лары Фабіян і Ігара Крутога, але да якой музыкі, расійскай ці заходняй, іх адносіць — незразумела.

### Lady Gaga і астатнія

А вось заходнія ці, як пішуць у нашых дыскарнях, «замежныя», выканаўцы прадаюцца не вельмі. Тут быццам бы і спрацоўвае асветніцкая функцыя інтэрнэту: усе новыя альбомы ў сеціве можна спампаваць яшчэ за месяц да афіцыйнага рэлізу.

У дыскарнях лідарам з'яўляецца Lady Gaga, што цяпер — сусветная тэндэнцыя.

Адразу за ёй ідзе Джасцін Бібер. Гэтыя музыкі ўжо захапілі сусветныя музычныя чарты і тэлеканалы, і не выглядае на тое, каб у бліжэйшы час яны каму-небудзь саступілі медыяпрастору.

Добра прадаюцца старыя альбомы Мадонны, магчыма, людзі ўзгадалі, што Lady Gaga трошкі ім кагосьці нагадвае. Ізноў жа Лара Фабіян — якая разам з Крутым захапіла паліцы з замежнымі выканаўцамі.

Трымаецца папулярнасць украінскага гурта «Океан Ельзи», але ўжо ў меншай ступені, чым раней. Карыстаюцца попытам альбом Браяна Фэры Olympia і дзве апошнія пласцінкі Шакіры (наўрад ці гэта залежыць ад яе прыезду). У астатнім — ніякага ажыятажу вакол заходняй музыкі няма — ні вакол навінак, ні вакол перавыданняў.

**Юрась Ускоў**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Жэле з віна

Пачысціць восем цялячых ножак, адрэзаць капыты, заліць 4,5 л вады і цалкам разварыць, даліваючы ваду і памешваючы, каб не падгарэла і не збегла. Працадзіць праз густое сіта і астудзіць у місе. Назаўтра выкласці на стол, зрэзаць зверху тлушч, а знізу асадак; растапіць сярэднюю, ачышчаную частку жэле на агні, уліць бутэльку сталовага віна, накласці 600 г цукру кавалкамі, нацёртую скурку двух лімонаў, дадаць сок з гэтых лімонаў, пяць або шэсць бялкоў, узбітых з лыжкай халоднай вады, перамяшаць гэта і паставіць на павольны агонь.

Калі вадкасць стане чыстай і яе выкіпіць столькі, што застанецца два літры, працадзіць праз густую сурвэтку і ўліць у форму з адтулінай усярэдзіне, рэшту вадкасці разліць у малыя формачкі, паставіць на лёд, а перш чым падаваць на стол, апусціць ненадоўга ў цёплую ваду і выкласці на талерку.

Можна для паху пакласці ў жэле і крыху гваздзікі або карыцы.

Гэтае жэле будзе залацістага колеру. Для надання іншага колеру частку выпаранай вадкасці аддзяліць і афарбаваць яго лыжачкай кашанілі. Самае прыгожае жэле, калі яно розных адценняў. Каб атрымаць такое, трэба падзяліць вадкасць на некалькі частак і дадаваць у кожную ўсё больш фарбавальніка, астуджаючы жэле пасля даліванняў кожнай часткі. Добра таксама для ўпрыгожвання, наліўшы жэле да паловы, пакласці па вінаградзіне ў кожны выгіб каля краю формы, а тады заліць рэштай вадкасці.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Літоўская кухарка», 1854. Падрыхтавала НБ.**

## Прыватныя абвесткі

### ВІТАННІ

**Віншуем Алеся і Вольгу Кудрыцкіх** з нараджэннем дачушкі Марські. Калегі і сябры.

### ПРАДАМ

**Прадам дзіцячы баян.** Нядорага. Т.: (029) 276-15-98.

### СПАЧУВАННІ

**На 71-м годзе жыцця памёр баранавіцкі паэт**, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Іван Лагвіновіч. Меў уласныя зборнікі. Друкаваўся ў ЛіМе і незалежным друку Берасцейшчыны. Выказваю спачуванні родным і блізкім нябожчыка. Аляксей.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

КОЛЫ

## Старыя пасведчанні кіроўцы застаюцца дзейнымі і ў ЕС

**Краіны Еўропы не маюць да іх прэтэнзій.**

Пра гэта агенцтву «Інтэрфакс Захад» заявіў у інтэрв'ю кіраўнік дарожнай паліцыі Літвы Гінтарас Александравічус.

«Мы прызнаём і будзем прызнаваць іх — яны адпавядаюць усім канвенцыям аб дарожным руху. Няма і не было ніякіх новаўвядзенняў», — падкрэсліў ён. «Іншая справа, калі кіроўца прыедзе з пасведчаннем кіроўцы, выдадзеным у СССР. Гэтай дзяржавы ўжо не існуе, гэтыя пасведчанні ўжо не прызнаюцца», — дадаў ён.

Александравічус заўважыў, што для яго «незразумелы гэты ажыятаж з правамі ў Беларусі».

Ён таксама абверг інфармацыю, што да старога пасведчання кіроўцы спатрэбіцца натарыяльна завераны пераклад на мове краіны знаходжання. «Калі пасведчанне кіроўцы мае лацінскае напісанне, мае тэрмін дзеяння — гэта значыць, яму не патрэбны пераклад, яно адпавядае патрабаванням Венскай канвенцыі аб дарожным руху», — падкрэсліў Александравічус.

Застаецца пытанне: а хто прыдумаў міф пра патрэбу замены? Мо той, хто хацеў атрымаць прыбытак за новыя пасведчанні?

**СГ**

ПА ЎСТАНОВАХ

## Чыноўнікаў абавяжуць адказваць на э-мэйлы грамадзянаў, прыватнікаў — не

Гэта прадугледжвае законапраект аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, прыняты палатай прадстаўнікоў.

Законапраект прадугледжвае, што электронныя звароты на афіцыйныя сайты дзяржаўных арганізацый падлягаюць абавязковаму разгляду ў тыя ж тэрміны і ў тым жа парадку, як і іншыя выгляды зваротаў. Калі электронныя лісты паступаюць на сайты іншых арганізацый, у тым ліку камерцыйных, то рашэнне пра неабходнасць даваць на іх адказ ці праігнараваць будзе прымаць кіраўнік арганізацыі, паведамляе агенцтва БелТА.

**СГ**

ПАДАРОЖЖЫ

## Беларусь можа ўвесці візавы рэжым з Грузіяй

Пра гэта заявіў першы намеснік старшыні дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі Андрэй Гарулька.

Наяўнасць у Беларусі бязвізавага рэжыму з Грузіяй з'яўляецца праблемай, бо некаторыя грамадзяне Грузіі, трапляючы на тэрыторыю Беларусі, вольна перасоўваюцца ў Расію, не маючы расійскай візы.

**«Еўрарадыё»**

ТЭХНАЛОГІІ

## ДАІ пачало лавіць аўто на хуткасць на адлегласці 50 кіламетраў

ДАІ праводзіць эксперымент, закліканы зменшыць колькасць аварый. Інспектары выкарыстоўваюць вымяральнікі хуткасці з відэафіксацыяй «Арэна» і аўтаматызаваны комплекс «Аўтаўраган». Інфармацыя перадаецца па тэхналогіі GPRS.

Прыбор «Арэна» хаваюць пры аварыйных участках дарог.

Фота з зафіксаваным парушэннем хуткасці, манеўравання, выезду на сустрэчную паласу перадаюцца на мабільны пункт інспекцыі за 30–50 кіламетраў ад месца дзеяння «Арэны».

Адначасова праз комплекс «Аўтаўраган» інспектары атрымліваюць патрэбную інфармацыю пра аўтамабіль парушальніка: ці не ўганан ён, згоне, ці затрымоўваліся на ім асобы без пасведчання кіроўцы і гэтак далей. У выніку інспектар спыніць менавіта парушальніка.

Эксперымент праходзіў на дарогах Гомельшчыны. Як запэўніваюць супрацоўнікі ДАІ, усяго некалькі інспектараў за чатыры гадзіны працы выявілі 140 перавышэнняў хуткасці.

У бліжэйшыя выхадныя новая тэхналогія будзе адпрацавана на дарогах усіх рэгіёнаў краіны.

**ЯВ, паводле БелТА**




Цукар — гэта ж культура палітычная, прадукт палітычны. Няма цукру на прылаўку — адразу ўлада нікуды не годная, не працуе. Без цукру ж нікуды. Так казаў Лукашэнка 23 верасня 2010 г. на полі гаспадаркі «Гарадзея». А блогер Luft адгукнуўся на гэта калажам. Цукар і алей — як сімвал беларускай стабільнасці і раскошы. Старонка 4.

Сімвалічны плакат распрацавала Упраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. На што яны намякаюць?

Поруч з царквой святых апосталаў Пятра і Паўла ў Мінску размясцілі гіганцкую рэкламу калготак.




СЯМЁН ПЕЧАНКО




Вясна ў старажытнай сталіцы Беларусі — Навагрудку.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Увосень венгерскія арнітолагі збіраюць маладзенькіх буслоў, якія яшчэ не могуць ляцець у вырай, і цэлую зіму гадуюць. А ўвесну выпускаюць на волю ў нацыянальным парку Хортабадзь.



DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дортай, Барысаўскага павета.** Рух беларускі яшчэ не даткнуўся гэтай старонкі, але народ не страціў сваёй мовы і звычаяў, і не відаць, каб ён іх цураўся. Але і тут маладыя хлопцы — хто ад купцоў, а хто ў салдатах — павывучваліся расейскіх «славечак» і фарсяць імі перад простымі беларусамі. Думаю, што гэта пакуль што не страшна.

**«НН». № 14. 1911**

**Маёр міліцыі ў адстаўцы і пенсіянерка,** якія адцягвалі маладафронтаўца Алеся Фалея ад мікрафона падчас мітынгу на Дзень Волі ў Баранавічах (мы пісалі пра гэта ў мінулым нумары), выявіліся ягонымі бабуляй і дзедам, якія баяліся за ўдзел унука ў палітыцы.

**«НН». № 14. 2001**

## ARCHE пра Плошчу






«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7240.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 12.04.2011.
Замова №. 1714
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614